*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 50 (736) 28 СНЕЖНЯ 2005 г.

# *З Новым 2006 годам!*

## “Microsoft” мае намер перакласці свае праграмы на беларускую мову

**Найбуйнейшы ўсясветны вытворца прадуктаў праграмнага забеспячэння, амерыканская карпарацыя “Microsoft” абвясціла пра намер стварыць беларускамоўную версію апэрацыйнай сістэмы “Windows XP”. Дагэтуль Беларусь была адной з апошніх краінаў Еўропы, дзе камputарныя карыстальнікі не мелі праграмнага прадукту на нацыянальнай мове і карысталіся распрацоўкамі для расейскага рынку.**

Кіраўнік Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў паведаміў, што ўжо даўно дамагаецца, каб “Microsoft”, як і многія іншыя кампаніі, загаварыла пабеларуску.

- Мы з гэтай кампаніяй лістуемся ўжо два гады. У прыватнасці, кантактуем з маскоўскім прадстаўніцтвам карпарацыі. І вось цяпер — вынік. Так што, можна сказаць, гэта ў немалой ступені з нашай падачы адбылося.

Першым крокам беларускай асіміляцыі ўсясветна вядомага брэнду стала легалізацыя рэгіянальнага дыстрыбутара кампаніі: ад пачатку снежня пастаўляць праграмныя прадукты “Microsoft” упаўнаважаная менская фірма “Elco computers”. Фірма, перадусім, абавязаная забяспечыць легальны канал паставак ліцэнзійных копіяў “Windows” ды іншых распрацовак “Microsoft” на беларускі рынак. Аднак там не могуць назваць канкрэтны тэрмін з’яўлення беларускамоўнай версіі “Windows XP”. Штосьці рэальна, як паведамілі ў фірме, будзе акрэслена падчас візіту ў Менск прадстаўнікоў карпарацыі, які запланаваны на студзень. Заяўлена, што “Microsoft” можа стаць адным з рэзідэнтаў Парку высокіх тэхналогіяў.

Фармальна Беларусь магла трапіць у сферу стратэгічных інтарэсаў “Microsoft” нашмат раней. З Беларуссю наўпрост звязаны Стыў Балмэр — генеральны дырэктар кампаніі і асабісты сябра заснавальніка “Microsoft” Біла Гейтса. Бабуля Балмэра — нараджэнка Пінска. Аднак адзін з кіраўнікоў ТБМ і камputарны адмысловец Сяргей Кручкоў кажа, што бізнасоўцаў такога шэрагу перадусім цікавіць не радавод, а рэальны кошт справы. І з гэтай прычыны беларускі рынак наўрад ці можа разглядацца як прыбытковы.

- З гэтага гледзішча ў іх вельмі практычны падыход. Беларусь купляе вельмі мала ліцэнзійных прадуктаў “Microsoft”. Для таго, каб ім было цікава займацца беларускай мовай, павінна быць сур’ёзная доля беларускіх ліцэнзійных карыстальнікаў, якія, плюс да ўсяго, яшчэ і карыстаюцца беларускай мовай. Фактычна такіх перадумоваў для “Microsoft” няма, і займацца гэтым нявыгадна. Але з нашага боку ёсць наступнае: мы працягваем распрацоўваць праграму праверкі арфаграфіі для беларускай мовы пад “Microsoft”, перакладаючы файлы мяню і дапаможныя файлы на беларускую мову.

Цяпер аперацыйная сістэма “Windows XP” падтрымлівае 45 нацыянальных моваў. У 2006 годзе гэты сьпіс можа пашырыцца дзякуючы беларускамоўнай версіі — з умовай, калі кіраўніцтва “Microsoft” станоўча вырашыць пытанне беларусізацыі свайго праграмнага прадукту.

*Ігар Карней, Менск.*







Такія святочныя пано ўсталяваны ў Нясвіжы. З іх на роднай беларускай мове віншуюць жыхароў і гасцей горада з Калядамі і Новым годам казачныя Дзед Мароз і Снягурачка і зусім рэальныя ксёндз Нясвіжскага каталіцкага касцёла і бацюшка Нясвіжскай праваслаўнай царквы.

У гэтых пано - векавечная нясвіжская, ды і, наогул, беларуская талерантнасць, якая жыве тут на працягу многіх стагоддзяў. У апошнюю вайну, падчас акцыі па знішчэнні каталіцкіх ксяндзоў менавіта нясвіжскі бацюшка, рызыкуючы жыццём сваім і сваёй сям’і, схаваў у сябе дома нясвіжскага ксендза Каласоўскага і не пусціў паліцыю на свой падворак.

Гэтая талерантнасць і ўзаемная павага вернікаў розных канфесій на Беларусі выліваецца сёння ў тое, што Калядныя святы тут амаль для ўсіх пачаліся 24 снежня, а закончацца, калі хопіць сілаў, на праваслаўныя Тры каралі.

З Новым 2006 годам, вас, шаноўныя беларусы, і хай пануе на нашай зямлі мір і згода між людзьмі і верамі, між грамадзянамі і дзяржавай, між мінулым і будучым, і хай будзе над намі міласэрнасць Божая.

## *Каляндар ад Саюза фальклярыстаў*



**Пабачыў свет чарговы “Каляндар абрадаў, свят і памятных дзён беларусаў”. Аўтар Васіль Ліцьвінка. Выдавец Беларускі саюз фальклярыстаў.**





*Святлана Багданкевіч*

# Што б я зрабіў для беларускай мовы, калі б быў прэзідэнтам?

*Святлана, выкладчыца музыкі*

Пры маім прэзідэнцтве родная беларуская мова зазнала б нарэшце пасля стагоддзяў уціску і заняпаду сапраўднае адраджэнне і росквіт.

Для таго, каб праводзіць мэтаскіраваную і сістэмную моўную палітыку трэба перадусім упарадкаваць заканадаўчую базу. Неабходна выправіць тое ненармальнае становішча з мовай народа, якое было створанае за стагоддзі страты незалежнасці і сёння падтрымліваецца пры дапамозе так званага "двуязычия".

Калі б я была прэзідэнтам, то праводзіла б ясную, зразумелую палітыку ў інтарэсах сваёй дзяржавы, дабівалася б панавання закону ва ўсіх сферах жыцця. Адразу паўстала б пытанне законнасці праведзеных рэферэндумаў і прызнання іх вынікаў. Міжнародныя структуры, як вядома, законнымі іх не прызналі. Прэзідэнт, які клапаціўся б пра імідж Беларусі на міжнародным узроўні, пра ўзаемадачыненні сваёй краіны з іншымі, павінен быў бы вырашыць гэтае пытанне. Вынікі рэферэндуму па мове і сімволіцы павінны быць адменены, як незаконныя. Гэта зразумела. Папершае, у нашай краіне няма аніякіх падставаў для дзяржаўнага дзвюхмоўя (увогуле для вынясення падобнага пытання на рэферэндум), паколькі працэнт расейцаў у нашай краіне для гэтага мізэрны і няма раёнаў з дастатковай шчыльнасцю іх пражывання. Па-другое, народ на рэферэндуме быў пазбаўлены магчымасці зрабіць свядомы выбар. Да таго ж, сам рэферэндум быў праведзены з мноствам парушэнняў, якія былі зафіксаваныя. У дадатак да ўсяго прыняты такім чынам закон паўсюдна не выконваецца, бо на справе так званае дзвюхмоўе было і задумана, як шырма, за якой крывадушна хаваецца звычайнае расейскае аднамоўе. У нашай спецыфічнай сітуацыі іначай і быць не можа (занадта блізкія мовы, занадта дрэнную адукацыю ўсе мы мелі ў савецкія часы і маем сёння, занадта антыпатрыятычная чыноўніцкая маса). Магчыма, дзесь у Казахстане свая мова і захаваецца ва ўмовах дзвюхмоўя, але толькі не ў нас. У нас гэты шлях вядзе ў нікуды - да заняпаду ўсяго нацыянальнага і страты дзяржаўнай незалежнасці. Рана ці позна пад бокам у вялікай Расеі пры такой палітыцы апынецца яшчэ адна маленечкая Расейка, другасная, непаўнавартасная, духоўна залежная, якая будзе ўспрымацца як анамалія, як нейкі кур'ёз і першай нічога не застанецца, як толькі "вяртаваць" яе, далучыўшы на правах адной ці некалькіх губерняў. Зброя не спатрэбіцца.

Магчыма звычайны грамадзянін, абывацель можа і не разумець пэўных прычын ды наступстваў, прыярытэтаў, не бачыць далёка наперад, кіравацца паняткамі "падабаецца - не падабаецца", "умею - не ўмею", яго можна загнаць на рэферэндум і прымусіць прагаласаваць "за дружбу", але кіраўнік дзяржавы, які бярэ на сябе каласальную адказнасць, мусіць быць дальнабачным, пралічваць вынікі сваіх дзеянняў, наступствы прынятых рашэнняў. Немагчыма зразумець, у чым мудрасць і дальнабачнасць такой дзяржаўнай палітыкі, калі ўсё нацыянальнае прыніжаецца, аплёўваецца, уціскаецца, пазбаўляецца глебы і разбураецца.

Вяртанне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай дазволіць ёй заняць належнае месца ва ўсіх сферах жыцця. Уратаваўшы нашу мову мы зможам уратаваць і Беларусь, свая мова для яе - гэта самая надзейная абарона, гэта яе "войска, авіяцыя і флот". Скасаванне так званага "двуязычия" дапаможа пераадолець шызафрэнічную раздвоенасць у грамадскіх настроях, адкрые ясныя, зразумелыя перспектывы, як для ўсёй краіны, так і для кожнага з яе грамадзян.

Аднаўленне канстытуцыйнага статусу адзінай дзяржаўнай для беларускай мовы стварае добрыя ўмовы для рэалізацыі комплексу мер па прывядзенні яе ў адпаведнасць з гэтым статусам.

Вось асноўныя з гэтых мер:

1. Як прэзідэнт, так і ўсе дзяржаўныя чыноўнікі карыстаюцца ў сваёй дзейнасці беларускай мовай. Для грамадства - гэта арыентыр, бо даўно заўважана, што беларусы "размаўляюць на мове начальства". Для чыноўнікаў усіх узроўняў неабходнай умовай займаць пасаду будзе абавязковае і добрае веданне дзяржаўнай мовы. Думаю, яны з гэтым хутка справяцца - як толькі пачуюць, адкуль дзьме вецер, так адразу і возьмуцца за слоўнікі з падручнікамі.

2. Перавод на дзяржаўную беларускую мову ўсёй сістэмы адукацыі знізу да верху. Самае важнае - гэта стварэнне нацыянальнай вышэйшай школы. Ужо ў першы год будзе створаны Беларускі ўніверсітэт, за які сёння змагаецца нацыянальная інтэлігенцыя. Для гэтага ўсё ўжо ёсць - і кадры, і праграмы, патрэбная толькі добрая воля кіраўніцтва краіны. У астатніх вышэйшых навучальных установах будуць аднаўлены беларускамоўныя плыні, якія будуць расці і множыцца, пакуль не ператворыць кожную ВНУ ў нацыянальную. Думаю, што для гэтага хопіць 4-5 год. Выкладчыкі, якія ўжо з першага году будуць гатовыя працаваць па-беларуску, атрымаюць 30%-ыя дадаткі да заробку, на другі год дадаткі зменшацца да 20%, на трэці і чацвёрты - да 10%, і будуць адменены з поўным вырашэннем праблемы (і так на ўсіх узроўнях сістэмы адукацыі). Натуральна, што кожны выкладчык будзе зацікаўлены як мага хутчэй перайсці на беларускамоўнае выкладанне. Зразумела, што ў такой сітуацыі, калі ВНУ будуць выключна нацыянальныя, перавод садкоў і школаў на беларускую мову будзе адбывацца без вялікіх перашкодаў.

3. Запатрабаванасць у пісьменных беларускамоўных спецыялістах вядзе за сабой запатрабаванасць у сістэме навучання мове для людзей розных узростаў. Будзе адчынена мноства курсаў розных узроўняў, платных і бясплатных, дзяржаўных і на грамадскіх пачатках, якія будуць выдаваць пасведчанні па іх заканчэнні.

4. Будуць створаныя дзяржаўныя і грамадскія камісіі для кантролю за якасцю валодання мовай.

5. Усе беларускія СМІ будуць паступова пераводзіцца на дзяржаўную беларускую мову. Тут таксама будзе дзейнічаць сістэма заахвочвання.

На радыё і тэлебачанні будуць створаны адукацыйныя і папулярызатарскія праграмы, прысвечаныя беларускай мове, гісторыі, літаратуры. Будуць запрашацца для ўдзелу ў перадачах нашыя выдатныя пісьменнікі і паэты, літаратуразнаўцы, даследнікі, гісторыкі, мастакі, артысты і музыканты - усе, хто выдатна валодае мовай і мае, што сказаць аўдыторыі. На сёння ўсе гэтыя інтэлектуалы і блізка не дапускаюцца да электронных СМІ.

На тэлебачанні будуць створаныя таксама забаўляльныя праграмы для прыцягнення цікавасці да беларускай мовы, гісторыі, культуры - розныя ток-шоў з удзелам цікавых людзей, гульні, конкурсы, віктарыны, музычныя праграмы (тое ж і на радыё).

6. Будуць зроблены значныя капіталаўкладанні ў стварэнне беларускага кінематографа - фільмаў на беларускай мове. Тут поле дзейнасці неабсяжнае: экранізацыя літаратурных твораў, фільмы на гістарычныя сюжэты, сучасныя беларускамоўныя моладзевыя і дзіцячыя фільмы і г.д.

7. Тэатры адновяць свой рэпертуар коштам выдатных твораў беларускай драматургіі, напрыклад, будуць пастаўлены п'есы Алеся Петрашкевіча. Артысты беларускіх тэатраў павінны дэманстраваць узорнае беларускае маўленне. Будзе зроблена ўсё магчымае, каб яны былі ў гэтым зацікаўленыя.

8. Дзяржаўная падтрымка беларускамоўнай прэсы і кнігадрукавання. Будуць ствараецца новыя выданні, у тым ліку моладзевыя і дзіцячыя.

9. Будзе праведзеная моўная рэформа, якая пакладзе канец двум беларускім правапісам.

10. Будзе праяўлены клопат аб стварэнні камп'ютарных праграм на беларускай мове, усяго, што забяспечвае поўнавартаснае існаванне нашай мовы ў XXI стагоддзі.

11. Будзе ўсяляк падтрымлівацца народная творчасць, якая будзе служыць развіццю і пашырэнню ўплыву беларускай мовы - розныя святы, вечарыны, канцэрты, чытанні, гульні, конкурсы, вандроўкі і шмат што іншае.

12. Вялізная ўвага будзе надавацца папулярызацыі беларускай песьні і ўвогуле нацыянальнай музыкі ва ўсіх жанрах.

Гэтыя пункты, вядома, не вычэрпваюць усіх мераў пашырэння і развіцця беларускай мовы, узняцця яе прэстыжу і ролі ў грамадстве. Калі б была на тое добрая воля, жыццё само дыктавала б, што трэба і можна тут рабіць. Дзяржава не шкадавала б грошай на дасягненне гэтай важнай мэты. Але знайшліся б і іншыя крыніцы фінансавання. Напрыклад, калі б я была прэзыдэнтам, то заахвочвала б прадпрымальнікаў ахвяраваць на беларускую мову, нават вызваляла б за гэта ад падаткаў.

Карыстанне той ці іншай мовай у побыце рэгляментавацца не будзе, і кожны можа гаварыць, як ён хоча і ўмее. Але прэстыж роднай мовы будзе вельмі высокі, цікавасць да яе як і патрэба ў ёй надзвычай вырасце, яна стане моднай, гаварыць на ёй - добрым тонам, адзнакай выхаванасці і інтэлігентнасці, не ведаць, не разумець мову гэтай краіны, якая з'яўляецца нашай Бацькаўшчынай, будзе сорамна. І мова загучыць вакол нас!

Упэўнена, што вынікам правядзення такой моўнай палітыкі, праблему з нашай мовай можна было б вырашыць за 5 гадоў.

*Сяргей, псіхолаг*

Агульныя прынцыпы, якімі б я кіраваўся:

а) Трэба спрыяць сталаму пашырэнню роднай мовы, бо яна душа народа.

б) Трэба спрыяць развіццю роднай мовы.

в) Уводзіць беларускую мову адміністрацыйна можна толькі паступова і толькі ў дзяржаўных установах.

г) Як дзяржаўны дзеяч я размаўляў бы толькі на роднай мове, бо не маю комплексу нізкапаклонства і няпоўнавартасці.

Што б рабіў больш канкрэтна:

І. На першым і другім годзе прэзідэнцтва

а) Паступова пераверу усе дзяржаўныя адміністрацыйныя ўстановы вышэйшага рангу (Раду Міністраў, Пракуратуру, Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь, аблвыканкамы і г.д.) на родную мову;

б) На працягу другога года правёў атэстацыю супрацоўнікаў гэтых установаў на веданне дзяржаўнай мовы (новыя супрацоўнікі павінны атэставацца пры атрыманні працы);

в) Абавязаў дзяржаўныя электронныя СМІ не меней паловы свайго часу працаваць на беларускай мове на першым годзе і цалкам - з канца другога года;

г) Зрабіў для прэсы на роднай мове ільготы, якія пазбаўленая цяпер, каб яна сталася з часам моцнай і канкурэнтаздольнай, а не напаўзадушанай;

д) Спрыяў беларускамоўнай адукацыі (у тым ліку вышэйшай);

е) Вылучыў філалагічны факультэт БДУ у асобную навучальную ўстанову з павелічэннем колькасці студэнтаў, якія б адбіраліся у гэты Беларускі моўны ўніверсітэт вельмі строга, каб стварыць залаты фонд адраджэнцаў роднай мовы, майстроў мастацкага і тэхнічнага перакладу;

ж) Паступова перавёў выкладанне на гуманітарных факультэтах дзяржаўных ВНУ на родную мову;

з) Заснаваў моцнае дзяржаўнае выдавецтва для выдання літаратуры, перакладзенай з іншых моваў (літаратуры навуковай, тэхнічнай, мастацкай);

і) Стварыў Дзяржаўны камітэт аховы роднай мовы, які на першым годзе разам з Акадэміяй навук унармаваў правілы беларускай мовы. Які меў бы сталыя гарадскія і раённыя моўныя інспекцыі, што разам з Таварыствам беларускай мовы у выпадках наўмыснага публічнага непісьменнага выкарыстання мовы афіцыйнымі асобамі і ўстановамі, газетамі і электроннымі СМІ, на шыльдах і ў рэкламе, накладалі адміністрацыйныя пакаранні ў выглядзе штрафаў. Яны ж каралі ў выпадках зьдзеку над мовай.

ІІ. На трэцім годзе прэзьвдэнцтва:

а) Ажыццявіў перавод справаводства ўсіх адміністрацыйных дзяржаўных устаноў, дзяржаўных абслугоўваючых і вытворчых устаноў на беларускую мову з атэстацыяй кіраўніцтва гэтых устаноў. б) Пачаў укараненне ўніфікаваных правілаў беларускай мовы (у вучэбных установах, выдавецтвах і г.д.);

в) Прывёў у адпаведнасць з апошнім перапісам насельніцтва (паводле роднай мовы):

- колькасць дзяржаўных друкаваных і электронных СМІ на беларускай і іншых мовах;

-колькасць дзяржаўных вучэбных устаноў;

г) Палепшыў якасць выкладання заходніх моваў у сярэдняй школе, каб пасля яе сканчэння кожны мог чытаць і размаўляць на побытавым узроўні на ангельскай ці французскай, нямецкай мове (гэта спрыяла б моўнай шматвектарнасці грамадзян Беларусі, навучала б шанаванню роднае мовы на ўзоры іншых краінаў, стварыла бы перспектывы павелічэння перакладных тэкстаў на беларускую мову).

*Сяргей, адмыслоўца па інфармацыйных тэхналогіях*

Найперш, як вышэйшая дзяржаўная асоба краіны, я карыстаўся бы дзяржаўнаю беларускаю мовай сам - падаў бы прыклад пашырэння беларускай мовы ў дзяржаўным апараце, у беларускім грамадстве.

У самім жа грамадстве, маркую, варта пачынаць пашырэнне беларускай мовы з дзяцей, са стварэння магчымасцяў атрымання прэстыжнай беларускамоўнай адукацыі. Дзеля гэтага забяспечыў бы адкрыццё прэстыжных, сучасных беларускамоўных дзіцячых садкоў, школаў, сярэдніх спэцыяльных устаноў, інстытутаў, універсітэтаў. Зрабіў бы ўсё, каб найлепшую адукацыю можна было атрымаць па-беларуску.

Забяспечыў бы ўсе неабходныя тэхнічныя ўмовы для выкарыстання беларускай мовы ў справаводстве (наяўнасць беларускамоўных бланкаў, папераў, камп'ютарных праграмаў).

Прыняў бы захады па выкарыстанні беларускай мовы ў сферы паслугаў.

Што датычыцца інспекцыі па моўных пытаннях, то яе б не ствараў, але максімальна стымуляваў бы імкненне да пашырэння беларускай мовы ў грамадстве.





*Святлана Багданкевіч*

# Што б я зрабіў для беларускай мовы, калі б быў прэзідэнтам?

*Барыс, энергетык*

Я ніколі не пагаджаўся кіраваць людзьмі, таму пытанне для мяне складанае. Калі б людзі адносіліся да іншых так, як жадаюць адносінаў да сябе, беларуская мова не была б у занядбаным стане.

Я не хачу быць прэзідэнтам. Я хачу, каб ім быў чалавек, падобны да ксяндза Уладзіслава Завальнюка з Чырвонага касцёла ў Менску. У Малдове слова Божае спадар Завальнюк нёс на малдоўскай мове, у Рызе - на латышскай, у Менску - пабеларуску. Калі чалавек займае ў Беларусі дзяржаўную пасаду, ён павінен валодаць дзяржаўнай беларускай мовай і карыстацца ёю. Калі ж ён не здольны ёю аваладаць, то не павінен кіраваць людзьмі. Наша нялёгкае жыццё ад таго, што ў Беларусі кіраўнічыя пасады нярэка займаюць няздары.

Кіраўнік дзяржавы павінен добра ведаць мову свайго народа, любіць яе, ганарыцца ёю, пашыраць яе ўжытак.

Каб насельніцтва Беларусі паратварылася ў яе грамадзян, трэба дапамагчы тым, хто жадае гэтага, аваподаць моваю. Было б дарэчы надрукаваць ілюстрацыйныя слоўнікі беларускай мовы: каб гарадскі жыхар мог пагладзець, як выглядае глог, што гэта за жамяра падзёнка (аўсянік), якія назвы маюць элементы вясковай печы, ці конскай збруі.

У цывілізаванай дзяржаве не будзеш шукаць віншавальную паштоўку на роднай мове і ў любы час здолееш пачуць родную дзяржаўную мову па радыё ці тэлебачанні.

*Зміцер, эканаміст*

Калі б я быў прэзідэнтам, то ў моўнай галіне найперш забяспечыў бы сапраўды роўнае становішча беларускай дзяржаўнай мовы і расейскай. Гэта значыць, што беларуская мова забяспечвала бы выкананне ўсіх тых грамадскіх функцыяў у дзяржаве, якія сёння ці не манапольна выконвае расейская мова.

Дзеля гэтага я бы садзейнічаў прыняццю і рэалізацыі наступных захадаў: 1. Стварэнне беларускамоўнай заканадаўчай і нарматыўнай базы.

2. Стварэнне інфраструктуры прэстыжнага беларускамоўнага навучання, як дзяржаўнага, так і прыватнага, з максімальна магчымым прыцягненнем лепшых беларускіх настаўнікаў, выкладчыкаў, навукоўцаў.

Забеспячэнне высокага ўзроўню беларускамоўнага выхавання і адукацыі ў дзіцячых дамах і інтэрнатах.

3. Максімальна магчымая падтрымка беларускага кнігавыдання, з'арыентаванага на ўнутраны рынак (усіх беларускамоўных выданняў, а таксама выданняў на іншых мовах пра беларускую мову, гісторыю, літаратуру, культуру).

4. Стварэнне сістэмы камплектацыі грамадскіх бібліятэк за кошт дзяржаўных сродкаў на 90% кнігамі, выдаванымі ў Беларусі (зь іх не менш за 50% - па-беларуску). Пры гэтым у абавязковым парадку грамадскія бібліятэкі павінны каплектавацца наступнымі беларускамоўнымі выданнямі: усе кнігі серыі "Школьная бібліятэка"; дзіцячы кнігі; усе выдаваныя зборы твораў, анталогіі; энцыклапедыі і даведнікі; - гістарычная літаратура і г.д.

5. Забеспячэнне роўных умоваў у частцы моўнага афармлення прадаваных у Беларусі тавараў і інструкцыяў на карыстанне імі. Прадаваныя ў Беларусі тавары мусяць мець "беларускае аблічча".

6. Стварэнне ўмоваў, каб чыноўнікі і сфера паслугаў (бытавых, гандлёвых, банкаўскіх і г.д.) валодалі беларускай мовай нароўні з расейскай.

7. Стварэнне цалкам беларускамоўных нацыянальных тэлевізійных каналаў, насычаных інтэрактыўнымі праграмамі і фільмамі ўласнай вытворчасці, супрацоўніцтва з замежнымі тэлекампаніямі і трансляцыя лепшых іх перадач па-беларуску.

8. Стымуляванне вытворчасці беларускага нацыянальнага кіно.

9. Не менш за палову FM радыёстанцыяў павінны быць беларускамоўнымі (варыянт: не менш за 50 адсоткаў эфіру (50 дзённага і 50 начнога) FM радыёстанцыяў мусіць быць беларускамоўным).

10. Стварэнне поўнавартаснага Інстытуту беларускай мовы, падрыхтоўка і выданне ім сумесна з зацікаўленымі школьных, галіновых, перакладных, рэгіянальных і інш. слоўнікаў, а таксама - фундаментальнага тлумачальнага слоўніка беларускай мовы (маркую, што 100 тамоў для такога слоўніка - не мяжа).

11. Стымуляванне грамадскай ініцыятывы ў падтрымку беларускай мовы (у тым ліку стварэнне банка народных ідэяў, скіраваных на захаванне і развіццё беларускай мовы).

Заснаванне прэміі, якой уганароўваліся б людзі, што ўносяць на грамадскіх пачатках найбольш важкі ўклад у падтрымку беларускай мовы.

12. Заснаванне добраахвотнага фонду падтрымкі беларускай мовы з накіраваннем ягоных сродкаў на выданне (у тым ліку на сучасных носьбітах інфармацыі) лепшых анталогіяў беларускай прозы, паэзіі, песьні, лепшых беларускіх фільмаў, агучаных па-беларуску.

13. Стварэнне Музея гісторыі беларускай мовы. Выданне папулярнай гісторыі беларускай мовы, якая раскрывала б старажытнасць, багацце і ўплывы роднай мовы беларусаў.

14. Папулярызацыя лепшых здабыткаў беларускай літаратуры праз стымуляванне укладання і друку разнастайных анталогіяў, выбранага, адаптацыю старадаўніх беларускіх тэкстаў да сучаснай беларускай мовы.

15. Забеспячэнне даступнасці ўсіх дзяржаўных архіваў ў дачыненні да "сталінскіх зачыстак" беларускіх літаратараў і мовазнаўцаў. Выданне серыі кніг на грунце архіўных дадзеных.

16. Правядзенне разнастайных літаратурных конкурсаў сярод беларускамоўных літаратараў Беларусі і замежжа (асабліва сярод літаратараў-пачаткоўцаў).

17. Да нацыянальнага маштабу ўзняць штогадовыя Багдановічаўскія чытанні, прымеркаваныя да дня нараджэння Паэта (па аналогіі з Шаўчэнкаўскімі чытаннямі ў Украіне).

18. Правядзенне штогадовых фестываляў беларускай песні, разлічаных на дзясяткі тысяч удзельнікаў з усяго свету (такія фестывалі здаўна праводзяцца ў Эстоніі, Латвіі ды іншых краінах).

19. Стварэнне дзяржаўнай фанатэкі з усімі магчымымі беларускімі песнямі і свабодны доступ да яе ўсіх зацікаўленых.

20. Масавыя святкаванні беларускіх народных святаў (Каляды, Гуканне вясны, Купалле).

21. Правядзенне на беларускай мове конкурсаў школьных рэфератаў на самыя розныя тэмы беларускага жыцця ("Гісторыя майго роду", "Мая любімая постаць беларускай гісторыі" і г.д.).

22. У сферы рускамоўнай вышэйшай адукацыі павінен быць уведзены курс спецыяльнай беларускай тэрміналёгіі, які дазволіў бы выпускніку ВНУ валодаць у мінімальна неабходным аб'ёме беларускай мовай для выканання службовых абавязкаў, працы са спецыяльнымі дакументамі, афармленымі па-беларуску.

23. Правядзенне паступовай дэсаветызацыі, дэрусіфікацыі, дэпаланізацыі беларускіх тапонімаў. Вонкавае афармленне беларускіх гарадоў, мястэчак і вёсак мусіць быць беларускамоўным (шыльды, аншлагі, паказальнікі і г.д.).

24. Гукавое афармленне вакзалаў, транспарту, абвесткі ў крамах і на кірмашах, аўтаматычныя службы даведкі і г.д. мусяць мець - як мінімум - беларускамоўны варыянт.

25. Забеспячэнне падтрымкі беларускай мовы на ўзроўні сучасных тэхналогіяў (беларусізацыя кампутарных праграм і г.д.).

26. Заснаванне Беларускага інстытуту, задачай якога была б сыстэматызацыя і папулярызацыя беларушчыны (у тым ліку - беларускай мовы), як у самой краіне, гэтак і за яе межамі.

27. Заахвочванне пранікнення беларускай мовы ў сферу рэлігіі (падрыхтоўка беларускіх святароў, катэхізацыя па-беларуску і г.д.).

28. Усталяванне мінімальна неабходнай сістэмы кантроля за захаваннем моўнага рэжыму (у беларускамоўнай школе, пры афармленні тавараў і г.д.).

29. Стварэнне платных і бясплатных курсаў беларускай мовы (павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў, чыноўнікаў, працаўнікоў сферы абслугоўвання).

30. Стварэнне даведачнага тэлефона па пытаннях беларускай мовы.

31. Заахвочванне прафесійных асацыяцыяў беларускамоўных спецыялістаў (ужо сёння існуюць такія асацыяцыі медыкаў, настаўнікаў).

32. Усталяванне правіла мінімальнага беларускага асартыменту ў сістэме продажу кніг, візія- і аўдыёкасет, кампактаў, кампутарных праграмаў і г.д.

33. Усталяванне цесных дзелавых сувязяў з беларускімі навукоўцамі, літаратарамі замежжа, беларусістамі іншых краінаў свету з мэтай рэгулярнага правядзення сумесных сімпозіюмаў, канфэрэнцыяў, сумеснага выдання даследаванняў, часопісаў, кніг.

*Набалелае*

# Пераліцоўка пад чужы капыл - недарэчная пераліцоўка

На другі дзень пасля "Дажынак-2005" перад пасадкай у гарадскі маршрутны аўтобус па шляху да палікілінікі, я звярнуў увагу на новую шыльду-указкальнік на яго бакавым шкле - яна была рускамоўнай. Здзівіла тое. што да свята ўраджаю на ўсіх аўтобусах такія ўказальнікі маршрутаў і канцавых прыпынкаў былі беларускамоўнымі.

Да іх прывыклі, іх не заўважалі, як не заўважаюць людзі паветра, якім дыхаюць. Так і павінна быць у незалежнай дзяржаве. Таму як родная мова – гэта сам народ, першакрыніца яго духоўнасці і культуры, аснова нацыянальнай самасвядомасці.

І вось, на, табе - недарэчная, хутчэй абразлівая "пераліцоўка" на аўтобусах усіх 17 гарадскіх маршрутаў. Больш таго – на рускую мову перапісалі дзесяткі абвестак раскладу руху аўтобусаў на канцавых і прамежкавых прыпынках, хоць да гэтага яны таксама былі беларускамоўнымі. Быццам кіраўнікі аўтапарку № 2 не заўважалі, як у працэсе падрыхтоўкі горада да свята ўраджаю памянялі з рускай на беларускую мову таблічкі з назвамі многіх цэнтральных і нават невялікіх вуліц, замянілі ўсю тапаніміку на аўтавакзале і размешчаным паблізу чыгуначным вакзале. Зрабіўшы яе болей яркай, кідкай, толькі на роднай мове. Так і павінна быць у цывілізаваным грамадстве. Таму як гістарычны досвед сведчыць: услед за знікненнем роднай мовы знікае і народ, асімілюецца.

Радуе і тое. што тапаніміка на гранітных плітах перад бронзавым помнікам Воіну-вызваліцелю горада летам 1944 года, узведзеным перад святам ураджаю, з пералікам назваў партызанскіх брыгадаў, вайсковых злучэнняў, якім было прысвоена званне "Слуцкія", таксама пададзена ў бронзавых літарах на беларускай мове, на ёй абнавілі шыльды на буйным гандлёвым комплексе "Крыніца", які аб'ядноўвае тры магазіны. На цэнтральным гарадскім універмагу "Слуцк" уся тапаніміка з дня адкрыцця яго восем гадоў таму была цалкам беларускамоўнай. І дырэктар гарадскога рынку да свята ўраджаю скінуў над галоўным уваходам у яго расейскамоўную шыльду, што тырчэла ўсе пасляваенныя гады і ўсталяваў яркае, маляўнічае пано з назвай "Слуцкі кірмаш", што парадавала не толькі гараджан, але і гасцей з суседніх краін, якія наведваюцца сюды ў выхадныя дні.

Але вернемся да нашых аўтобусаў. Іх "пераліцоўка" абуріла мяне да глыбіні душы, і я пазваніў дырэктару аўтапарку № 2 Аляксандру Фёдаравічу Кудзёлку, выказаў сваё здзіўленне ўбачаным. Ён у адказ спытаў, на якіх маршрутах паявіліся такія "абновы" – быццам не ў курсе быў! Я адказаў, што на ўсіх, ён паабяцаў праверыць і разабрацца і паклаў трубку.

Мяне гэта насцярожыла. І я пазваніў начальніку эксплуатацыі аўтапарку Анатолю Віктаравічу Мяцельскаму, які, як мне засведчылі ў дыспетчарскай, распараджаецца такімі "абновамі". Ён загаварыў лагодненька пра зношанасць старых указальнікаў маршрутаў, маўляў, мастак іхні перастараўся абнавіць іх па-руску, і што справу паправім, толькі не адразу.

Званю намесніку дырэктара аўтапарку Мікалаю Мікалаевічу Валетку. Той загаварыў пра слабае веданне беларускай мовы (усе тры начальнікі – беларусы, слуцакі па нараджэнні), нават параіў мне прыехаць да іх і дапамагчы з перакладам тэксаў указальнікаў на родную мову. Быццам дванаццаць гадоў таму, калі ўпершыню тыя указальнікі "загаварылі" па-беларуску, хтосьці запрашаў перакладчыкаў. А завяршыў размову Мікалай Мікалаевіч улюбёнай многімі чыноўнікамі адгаворкай, што ў нас дзяржаўнае двухмоўе і кожны кіраўнік мае права карыстацца той, мовай, якая яму да спадобы. Вось так мяне адфутболілі з маімі прэтэнзіямі, паабяцаўшы "постепенно переходить на белорусские указатели"(?).

А гэта азначае, што нічога не зменіцца.

Зайшоў, нарэшце, да намесніка старшыні райвыканкаму (цяпер горад аб'яднаны з раёнам, і гарадскія ўлады скасаваны) Пятра Барысавіча Даўгучыца, якога ведаю шмат гадоў. Паведаў пра сваю нязгоду з рашэннем кіраўнікоў аўтапарку № 2. Ён выслухаў, з разуменнем, нават выказаў здзіўленне з ноткай абурэння, паабяцаў разабрацца.

З'явілася надзея на станоўчы вынік.

На вялікі жаль, нічога так і не змянілася. Ужо тры месяцы ўсе гарадскія аўтобусы шнуруюць па вуліцах з "пераліцаванымі" указальнікамі-шыльдамі, нібы кідаючы выклік тым 80 працэнтам жыхароў горада, што ліцаць сябе беларусамі. Толькі нямногія з іх, на жаль, усведамляюць, што ўратаваць беларускі народ ад канчатковай асіміляцыі і вымірання можа толькі родная мова. Дарэчы, акрамя аўтара гэтых радкоў, толькі яшчэ адзін пенсіянер, ветэран вайны, пазваніў дырэктару аўтапарку з выказваннем незадавальнення заменай указальнікаў.

З моладзі – ніхто! Ад роднай мовы адварочваюцца не толькі чыноўнікі ўсіх рангаў знізу да верху, але і многія педагогі. Работнікі культуры, як у савецкую эпоху з яе шматгадовай мэтанакіраванай русіфікацыяй народу.

*Міхась Тычына, г. Слуцк.*





# Ліда беларуская






Такімі маляўнічымі пано пачалі аздабляцца ў апошні час аўтобусныя прыпынкі ў горадзе Лідзе.

Безумоўна, што ад іх у горадзе становіцца жыць больш прыемна і больш утульна. А яшчэ больш утульна становіцца ад таго, што надпісы на гэтых пано робяцца на роднай беларускай мове.

Відавочна, што на падставе гэтых пано яшчэ рана гаварыць пра агульны паварот горада да беларускасці, але тое, што беларуская мова для горада Ліды не чужая, можна гаварыць з упэўненасцю, як можна з упэўненасцю сказаць і тое, што, чым больш у навакольным асяроддзі будзе беларускасці, тым больш беларускасці будзе і ў свядомасці кожнага жыхара, а з гэтага і пачынаецца сама Беларусь.

*Яраслаў Грынкевіч.*





**ЧЭРВЕНЬСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**
(Чэрвеньскі райвыканком)

**ЧЕРВЕНСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ**
(Червенский райисполком)

**РАШЭННЕ** **РЕШЕНИЕ**

24.11.2005 № 1349

г. Чэрвень г. Червень

**Об увековечении памяти Конопацкого Ибрагима Борисовича**

Заслушав и обсудив информацию зам. председателя исполкома Рускевича М.М. о Конопацком Ибрагиме Борисовиче (29.02.1949-09.08.2005), уроженце г.п. Смиловичи, деятеле национально-культурного возрождения белорусских татар, кандидате исторических наук, доценте Белорусского государственного педагогического университета имени М.Танка, председателе Минской мусульманской общины, зам. председателя общественного объединения белорусских татар «Зикр уль-Китаб» («Память и книга»), а также письмо председателя ОО «ТБМ імя Ф. Скарыны» Олега Трусова, адресованного председателю облисполкома Домашкевичу Н.Ф. от 08.11.2005 г. с просьбой поддержать инициативу общественности об установлении мемориальной доски на доме в г.п. Смиловичи, где родился М. Конопацкий, и назвать его именем улицу Республиканскую, Червенский районный исполнительный комитет отмечает, что Конопацкий Ибрагим Борисович внес достойный вклад в изучение проблемы межнациональных отношений в нашей республике, истории и культуры белорусских татар.

Сделал многое по возрождению на Беларуси мусульманства и его религиозных святыней, постоянно заботился о независимости нашей страны и развитии ее культуры, оказал помощь в сборе материалов для книги «Память. Червенский район». Научные труды И. Конопацкого по проблемам ислама и новых религиозных движений в Республике Беларусь имеют важное политическое, идеологическое и воспитательное значение в современных условиях.

Учитывая вышеизложенное, Червенский районный исполнительный комитет РЕШИЛ:

1. Дать согласие общественному объединению «Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны» на установку мемориальной доски на доме в г.п. Смиловичи, где прошли детство и юность И.Б. Конопацкого, с условием, что финансовые затраты по изготовлению и установке мемориальной доски возьмет на себя общественное объединение «Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны».

**Председатель исполкома** **А.И. Лопатко.**

**Управляющий делами исполкома** **П.Е. Лухверчик.**

Министерство связи и информатизации Республики Беларусь
Республиканское унитарное предприятие почтовой связи
"БЕЛПОЧТА"
**ПРОИЗВОДСТВО "МИНСКАЯ ПОЧТА"**
пр-т Независимости,10, 220050, г. Минск,
тел. 226-06-82, факс 227-49-25
e-mail: officemp@belpost.by
http:// www.belpost.by
Р/С 3012100280011 в филиале 529 "Белсвязь"
АСБ "Беларусбанк", г.Минск, код 720

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі Рэспублікі Беларусь
Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства паштовай сувязі
"БЕЛПОШТА"
**ВЫТВОРЧАСЦЬ "МІНСКАЯ ПОШТА"**
пр-т Незалежнасці,10, 220050, г. Мінск,
тэл. 226-06-82, факс 227-49-25
e-mail: officemp@belpost.by
http:// www.belpost.by
Р/Р 3012100280011 у філіяле 529 "Белсувязь"
ААБ "Беларусбанк", г.Мінск, код 720

"12" 12_ 2005 г. № 06П – 29/Т-1217- 4050

На №_____ от "___" ________ 200__ г.

**Трусаву А.А.**
**вул. Плеханава, 56-1-133,**
**220095, г. Мінск-95**
**Начальніку 95 адзялення**
**паштовай сувязі Глябец В.А.**

**Алег Анатолевіч!**

Вытворчасць «Мінская пошта» разгледзела Ваш запіс за №3 у кнігу заўваг і прапаноў 95 аддзялення паштовай сувязі і паведамляе наступнае:

Накіраваны запыт у адцзел распаўсюджвання друку РУП «Белпошта». Атрыманы адказ, у якім тлумачыцца, што выдавецтва «Наша ніва» ў 2005 г. парушыла абавязацельствы па заключанаму з РУП "Белпошта" дагавору на прыём, дастаўку падпісных тыражоў газет, а выдавецтва «Народная воля» іх парушала неаднаразова. Парушэнне дагаворных абавязацельстваў адмоўна адбіваецца на рабоце ўсіх звёнаў прадпрыемства (цэха экспедзіравання друку, абласных і раённых сартыровочных падраздзяленняў, адзяленняў паштовай сувязі) і павялічвае расходы на этапах апрацоўкі і дастаўкі падпісчыкам друкарскіх сродкаў масавай інфармацыі. У адпаведнасці з вышэйвызначаным дагаворам, РУП "Белпошта" мае права не заключаць дагавор на наступны падпісны перыяд з рэдакцыяй і (або) выдавецтвам, парушыўшым умовы дагавора і не ўключаць іх выданне ў каталог.

**З павагай,**
**в.а. начальніка** **В. В. Пугач.**

# Чаму не любяць беларускую мову?

Я ўжо даўно не малады чалавек, але мне вельмі падабаецца глядзець спартыўныя спаборніцтвы.

Вось і нядаўна з цікавасцю глядзеў этапы кубка свету па біятлоне на канале "Лад", толькі вельмі засмучае, што ўсе рэпартажы Уладзімір Навіцкі, Аляксандр Казюкевіч і іншыя вялі не на роднай, матчынай мове, а на расейскай.

Такая ж карціна і па спартыўнай гульні "Вас выклікае Спартландыя"; на іншых рэпартажах са спартыўных спаборніцтваў.

Да гэтага трэба дадаць, што і Навіцкі і Казюкевіч і іншыя каментатары добра валодаюць беларускай мовай. Дык чаму ж яны тады не карыстаюцца ў сваёй рабоце матчынай мовай?

Як вядома, у лютым 2006 года пачнуцца зімовыя алімпійскія гульні ў Турыне (Італія). І нам бы вельмі хацелася б каб рэпартажы з зімовай алімпіяды (як дарэчы і з іншых спартыўных спаборніцтваў) вяліся на роднай мове.

*Святаслаў Маханёк, г-п. Круглае, Магілёўская вобласць.*



*Адбылося сёлета*

# У “Сьвітанку” адзначылі стагоддзе паэта

***У Вялікай зале дома Асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў Латвіі сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак” ладзілі вечарыну з нагоды 100-х угодкаў з дня нараджэння беларускага паэта, грамадскага дзеяча, перакладчыка латышскіх народных песняў - дайнаў на беларускую мову Пятра Сакола.***



Пятро Сакол (сапраўднае прозвішча Масальскі) нарадзіўся 1(14) ліпеня 1905 г. у мястэчку Пасінь Люцынскага павету Віцебскай губерні (зараз в. Пасіене Лудзенскага раёна Латвіі ). Вучыўся ў Пасіньскай народнай школе, а потым у Люцынскай беларускай гімназіі таварыства “Бацькаўшчына” (1922-23). У 1923 г. пераехаў у Рыгу, працаваў карэктарам у рэдакцыі газеты “Голас беларуса” і вучыўся на Беларускіх 2-гадовых настаўніцкіх курсах (1925-1926). У 1927 г. атрымаў месца настаўніка-практыканта ў Дзвінскай (Даўгапілскай) беларускай гімназіі. У 1929-1936 гг. працаваў карэктарам-перакладчыкам часопіса “Беларуская школа ў Латвіі”, справаводам рыжскай Беларускай вячэрняй школы.

З 1936 г. да ліпеня 1942 г. П. Сакол працаваў бухгалтарам на фанернай фабрыцы, адкуль у адміністрацыйным парадку быў пераведзены на пасаду карэктара-перакладчыка ў рэдакцыю беларускага часопіса “Новы шлях”, створанага ў Рызе нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. У штаце рэдакцыі знаходзіўся да верасня 1944 года, калі, пазбягаючы прымусовай эвакуацыі ў Германію, трапіў у Шкедскае лясніцтва (Курляндыя) на нарыхтоўку дроў. Быў рэпрэсаваны. З 1945 да 1947 г. знаходзіўся на “фільтрацыі” у Хабараўскім краі, у Ніжне-Амурскіх выхаваўча-працоўным лагеры МУС СССР. Вярнуўся ў Рыгу ў сакавіку 1947 г. Пасля вяртання ў Латвію працаваў вартаўніком, дарожным майстрам, нармоўшчыкам.

Захапленне літаратурай пачалося ў П. Сакола са знаёмства з паэмай “Тарас на Парнасе”, якую ён ведаў на памяць, яшчэ ў час вучобы ў Себежы. Падчас вучобы ў Люцынскай беларускай гімназіі рыхтаваў штомесячнік вучнёўскай творчасці і фальклорных запісаў “Ластаўка” (выйшла 9 нумароў), прымаў удзел у тэатральных пастаноўках, ладзіў літаратурныя чытанні. Першыя спробы пяра - пьесы, якія юнак пачаў пісаць з 15-гадовага ўзросту, але больш удаваліся Пятру Саколу вершы (друкаваліся яны з 1923 г.) пра гістарычнае мінулае краю (“Люцынскі замак”), пра самаўсведамленне асобы ва ўмовах нацыянальнага і сацыяльнага прымусу (“Беларускі сцяг”) і скаўцкі рух. Пісаў пра нялёгкае жыццё працоўнага чалавека (“Каваль”), пакуты латгальскай сялянства “Адвечныя рабы”). Пасляваенныя рэпрэсіі на 20 гадоў перапынілі працу на беларускай ніве, засталася неадноўленай картатэка да беларуска-латышскага слоўніка, якую ён лачаў у канцы вайны.

Пятро Сакол - адзін з першых маладых беларускіх паэтаў у Латвіі, “першакрокавец”, што прымаў удзел у выданні першага зборніка 20 маладых латвійскіх паэтаў “Першы крок”. У 1929 г. выйшаў зборнік вершаў паэта “На світаньні”, які быў адзначаны вельмі станоўчай рэцэнзіяй у часопісе “Полымя”. Пятро Сакол перакладаў на беларускую мову, акрамя дайнаў, таксама творы расейскіх і ўкраінскіх паэтаў, латышскіх класікаў Я. Райніса (паэзія) і Я. Порука (проза). У 1935 г. ён зрабіў смелую спробу падрыхтаваць зборнік перакладаў латышскіх дайнаў. Але яго падборка латышскіх народных песняў убачыла свет у штотыднёвіку “Даляглядьі” толькі ў 1979-м зборнік перакладаў “Дайны” выйшаў у Менску ў 1987 г. (прадмова сябра таварыства “Сьвітанак”, кавалера ордэна Ф. Скарыны Мірдзы Абалы).

Паэт належаў да вядомага старажытнага беларускага роду Масальскіх. Гасцямі вечарыны былі яго нашчадкі нявестка Галіна, яе сын Ігар і ўнучка Хрысціна, а таксама сын дачкі паэта Рагнеды Івар. Сваякі Пятра Сакола і старшыня аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар” Вячка Целеш, які асабіста ведаў паэта, ў сваіх успамінах аб ім падкрэслівалі менавіта такія адметныя рысы юбіляра, як шляхетнасць, інтэлігентнасць, далікатнасць і сціпласць. Гэтыя уласцівасці, на шчасце, передаліся і ўнукам паэта. На вечарыне гучалі вершы Пятра Сакола ў выкананні “сьвітанкаўцаў” і вучняў Рыжскай Беларускай асноўнай школы. Школьны гурт “Вавёрачка” і гурт “Сьвітанак” выконвалі беларускія патрыятычныя і народныя песні.

Сябра таварыства “Сьвітанак” др. Наталля Цімаховіч у сваёй прамове адзначыла: “У куточку Еўропы між Балтыйскім морам і берагамі Дзвіны-Даўгавы на працягу многіх стагоддзяў сяліліся розныя балцкія плямёны. Актыўную міграцыю павялічвалі шматлікія ваенныя падзеі і эканамічныя працэсы. Таму ў Латвіі з даўніх часоў жывуць і беларусы. Яны інтэграваліся ў латвійскае грамадства, стварылі асаблівую групу беларускай дыяспары, адрозную ад эканамічных і палітычных мігрантаў савецкага часу. Такім жыхаром Латвіі быў і беларускі патрыёт Пятро Сакол. Ён нарадзіўся і жыў на тэрыторыі сучаснай Латвіі, добра ведаў латышскую мову, але ніколі не губляў сваёй беларускасці. Таму ён быў прыкладам культурнага аб'яднання двух латвійскіх народаў: латышоў і беларусаў. Глыбокая сувязь з латышскай культурай прывяла яго да жадання пазнаёміць беларусаў, якія жывуць за межамі Латвіі, з латышскімі дайнамі - канцэнтратам латышскай духоўнасці. Яго пераклады дайнаў найлепш назваць новымі паэтычнымі творамі ў якіх па беларуску выказаныя думкі латышоў. Варта дадаць, што такога якаснага і дакладнага перакладу дайнаў на расейскую мову не існуе і зараз, а асноўная частка з больш як 300 перакладаў П. Сакола была зроблена ім яшчэ ў 20-я -30-я гады 20-га стагоддзя.” Н. Цімаховіч таксама прыгадала словы Папы Рымскага Караля Вайтылы аб тым, што адным з шляхоў, якімі развіваецца культура на зямлі, з'яўляецца існаванне ўзаемнай сувязі паміж старэйшымі і малодшымі пакаленнямі, якая стварае перапляценне думак і падставу для наступнага этапу развіцця чалавецтва. Творчасць Пятра Сакола і сённяшнія намаганні “сьвітанкаўцаў” захаваць культурную спадчыну, створаную беларусамі Латвіі ў мінулым стагоддзі, з'яўляюцца яскравым пацверджаннем справядлівасці гэтых словаў.

Сябры таварыства “Сьвітанак” таксама наведалі месца пахавання Пятра Сакола.

***Тацяна Казак, Рыга.***

*Адбылося сёлета*

# Каплічная Брама

Летам 2005 года сябрамі розных грамадскіх няўрадавых аб'яднанняў Пастаўшчыны было задумана стварыць пабудову для ўшанавання хрысціянскіх традыцый нашых продкаў. Ініцыятарам і галоўным натхніцелям гэтай справы быў актыўны руплівец беларушчыны, рэдактар часопіса “Нашы карані”, Міхась Гіль і ў пэўнай ступені краязнавец Алесь Гарбуль. Па іх просьбе вядомым беларускім мастаком, сябрам суполкі “Пагоня”, клуба “Спадчына”, БГА “Ветэраны адраджэньня” і ТБМ імя Францішкі Скарыны, Алесем Цыркуновым быў выкананы мастацкі праект будучага помніка. Дзеля таго, каб пазбегнуць непажаданых эксцэсаў у будучым, гэты эскізны праект быў узгоднены, як з мясцовай уладай, так і з каталіцкім духавенствам. Актыўная праца над яго стварэннем была распачата толькі ў верасні. Чынны ўдзел у стварэнні культавага збудавання прынялі, акрамя аўтара праекта: мясцовы прадпрымальнік актыўны руплівец па адраджэнню нашай спадчыны Уладак Іванковіч, які найбольш дапамог матэрыяльнымі сродкамі ды жывой сілай; вядомы народны майстар з Паставаў, Юрась Фурс адмысловa выканаў усю кавальскую аздобу да гэтага помніка; вядомы дзеяч з Астравеччыны, Стэфан Казлоўскі выразаў з дрэва ў народным стылі, фігурку Хрыста.

Нарэшце, сонечным восеньскім днём, на свята Дзядоў, другога лістапада 2005 года на раннехрысціянскіх могілках у вёсцы Радута, якая знаходзіцца непадалёку ад мястэчка Лынтупы (Пастаўскі раён), пробашчам касцёла Святога Андрэя, ксяндзом Паўлам была асвечана “Каплічная Брама”. На гэтую ўрачыстасць прыбыло шмат вернікаў як з суседніх акалічных вёсак так і здалёку. Пасля асвячэння адбылося імправізаванае ўшанаванне прысвечанае адкрыццю помніка, а на заключэнне быў выкананы рэлігійны гімн на словы Наталлі Арсенневай “Магутны Божа”.

Археолагі з акадэміі навук Эдвард Зайкоўскі і Людміла Дучыц дапускаюць, што на месцы кургннага могільніка ў вёсцы Радута ў старажытныя часы знаходзілася язычніцкае капішча. Варта адзначыць, што назва вёскі мае старажытнабалцкае паходжанне і звязана з міфалагічнай багіняй зары, кахання, свету памерлых, абуджэння і паміранне прыроды, жонкай бога памерлых Вялеса - багіняй Радутай. У познім сярэднявеччы на гэтым месцы быў створаны раннехрысціянскі могільнік, які таксама называюць “жальнікам”, аб гэтым сведчаць глыбока ўрошшыя ў зямлю каменныя валуны, апрацаваныя ўручную з ледзь бачнымі знакамі крыжа. Мясцовы жыхар вёскі Радуты Кібіцкі Баляслаў Фабіяновіч памятае, як ў часы Другой сусветнай вайны на гэтым кургане было пахавана сем немцаў, пра ранейшыя пахаванні яму расказвала суседка, прадзеды якой тут знайшлі апошні прыстанак.



Для аўтара Каплічнай Брамы такая самаахвярная, дабрачынная дзейнасць з'яўляецца святым абавязкам сапраўднага патрыёта і грамадзяніна, які мусіць дбаць найперш аб будучыні сваёй Айчыны. Пры гэтым ён мусіць усімі магчымымі і немагчымымі сродкамі як слаўныя старонкі яе гісторыі, так і асобных яе прадстаўнікоў у прыватнасці, пра што сцвярджае і гэты чарговы, пяты па ліку, твор аўтара.

У Беларусі вядомы некалькі аналагічных курганоў, але гэта адзіны старажытны хрысціянскі могільнік ушанаваны культавым помнікам. Каплічная Брама - гэта незвычайная па форме пабудова, якая адначасова нечым нагадвае браму і алтар (ці ахвярнік) на якім размешчана шыльда з надпісам лацінскімі літарамі:

*“Kaplicznaja Brama. Tut znachodzicca chryscijanski mohilnik XIV-XVII! stst.*

*Pomnik archealohii. Achouvajecca dziarzavaj.*

*Hospadzie, bagaslavi i supakoj duszy sluhau Tvaich.*

*Szanujma Hospada naszaha Jezusa Chrystusa i prodkau naszych! ”*

Над “алтаром” узвышаюцца пераходзячы адзін у другі два крыжы: шасціканцовы патрыяршы крыж і лацінскі крыж з паўмесяцам, які сімвалізуе каўчэг. Распяцце Хрыста на крыжы, выкананае Стэфанам Казлоўскім у народным стылі. Дэкаратыўнае аздабленне помніка сугучнае раннехрысціянскай культуры напоўнена хрысціянскімі і купальскімі знакамі. Каплічная Брама наскрозь праніктнута сімвалічнымі значэннямі. Галава Хрыста ачолена калючым дротам прывезеным з сталінскіх канцлагероў Сібіры. Бакавіны даха “Брамы” упрыгожаны дванаццацю крыжамі, якія ўзвышаючыся над ім сімвалізуюць дванаццаць апосталаў.

Аўтар Каплічнай Брамы, захоўваючы ў традыцыях беларускага драўлянага дойлідства, унёс у культавае збудаванне адметныя уласна стылявыя рысы, як у арнаментальным аздабленні, так і ў кампазіцыйнай пабудове. Гарманічныя прасторавыя суадносіны, удала выбранае месца помніка адносна сонца, дрэў, каменных валуноў, сведчаць аб высокапрафесійным мастацкім падыходзе ўласцівым творам Алеся Цыркунова.

Новаўзведзены культавы помнік на фоне неба і старажытнага могільніка і каменнымі валунамі, пакідае моцнае эмацыйнае ўражанне. Сяміметровая кампазіцыя з крыжам у цэнтрам, якая раздзяляе Браму з дванаццацю крыжамі на дзве сіметрычныя палавіны, быццам разрывае яе, нагадвае адкрытую браму Гасподнюю, якая раскрывае свае несмяротныя таямніцы і заклікае нас да іх спасціжэння.

***Наста Свікрос,***
***магістр мастацтвазнаўства.***



*Пры адкрыцці Каплічнай Брамы*

наша слова



# ПЕРШАЯ

*Медалі Міколы Несцярэўскага.*



Язэп Драздовіч



Яўген Хлябцэвіч



Іван Серада



Палута Бадунова



Аркадзь Смоліч



Раман Скірмунт



Алесь Цвікевіч



Ігнат Дварчанін



Клаўдзій Душэўскі



Яўхім Карскі



Антон Аўсянік



Сцяпан Некрашэвіч



Фелікс Статкевіч



Сымон Рак-Міхайлоўскі



Макар Краўцоў



Кастусь Езавітаў



Язэп Варонка



Зоська Верас



Канстанцыя Буйло



Вацлаў Ластоўскі



Алесь Чарвякоў



Уладзімір Жылка



Уладзімір Пракулевіч



Іван Луцкевіч

## 2006 год -

| | СТУДЗЕНЬ | ЛЮТЫ | САКАВІК | КРАСАВІК | ТРАВЕНЬ | ЧЭРВЕНЬ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *Пан.* | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 |
| *Аўт.* | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 |
| *Сер.* | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 |
| *Чац.* | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 |
| *Пят.* | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 |
| *Суб.* | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 |
| *Нядз.* | **1 8 15 22 29** | **5 12 19 26** | **5 12 19 26** | **2 9 16 23 30** | **7 14 21 28** | **4 11 18 25** |

# Адраджэнне

Наша слова





***Фонд Анатоля Белага ў Старых Дарогах.***



*Алесь Гарун*



*Мітрафан Доўнар-Запольскі*



*Антон Трэпка*



*Вацлаў Іваноўскі*



*Антон Луцкевіч*



*Язэп Лёсік*



*Браніслаў Эпімах-Шыпіла*



*Цішка Гартны*



*Аляксандр Уласаў*



*Максім Гарэцкі*



*Антон Бярозка*



*Антон Шабуня*



*Пётр Крачэўскі*



*Лявон Заяц*



*Алесь Бурбіс*



*Язэп Дыла*



*Сяргей Скандрыкаў*



*Карусь Каганец*



*Браніслаў Тарашкевіч*



*Паліна Мядзёлка*



*Тамаш Грыб*

## *100-ы год "Нашай Нівы"*

| | ЛІПЕНЬ | ЖНІВЕНЬ | ВЕРАСЕНЬ | КАСТРЫЧНІК | ЛІСТАПАД | СНЕЖАНЬ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *Пан.* | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 |
| *Аўт.* | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 |
| *Сер.* | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 |
| *Чац.* | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 |
| *Пят.* | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 |
| *Суб.* | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 |
| *Нядз.* | **2 9 16 23 30** | **6 13 20 27** | **3 10 17 24** | **1 8 15 22 29** | **5 12 19 26** | **3 10 17 24 31** |

# Музыка стагоддзяў на Каляды

**Надышлі святыя і радасныя Каляды. Падчас іх святкавання добрыя людзі віншуюць адзін аднаго з Нараджэннем Збаўцы, робяць падарункі.**

**Хрыстова Нараджэнне непарыўна знітавана з чароўнымі гукамі музыкі, якія стагоддзямі з'яўляюцца прадвесцем нараджэння Божага Сына. Музыка спадарожнічае і ўсім Святым Калядам...**

**Музыканты гэта разумеюць і ў святочныя дні імкнуцца напоўніцу аддаць свой талент усслаўленню Нараджэння Збаўцы і дадаць святочнага настрою людзям паспалітым.**

Такія высокія памкненні рухалі і арганізатараў фэсту "Калядныя вечары на Залатой Горцы", які мяркуецца правесці 25-30 снежня ў Менску.

Наведвальнікаў гэтай святочнай імпрэзы чакаюць Калядныя відовішчы ў выкананні дзяцей нядзельнай школы, маладзёвы спектакль "Легенда пра чацвёртага караля", выступы дзіцячых харавых калектываў.

Сваё выканаўчае майстэрства і талент прадэманструюць ў гэтыя калядныя вечары ансамблі трубачоў "Maestoso" І "Festivo" пад кіраўніцтвам А. Карацеева, квінтэт беларускіх народных дудак (кіраўнік І. Мангушаў), узорны дзіцячы хор "Пунцовыя ветразі" (мастацкі кіраўнік І. Каралёнак), а таксама, мінулагодні пераможца і ўладальнік Гран-пры фэсту старажытнай музыкі ў Мальборку (Польшча) ансамбль "Brevis" пад кіраўніцтвам Паўла Сурагіна. Нагадаем, ансамбль – дзіцячы, працуе пры СШ№13 г. Менску.

Для аматараў арганнай музыкі ў касцёле Найсвяцейшай Троіцы (св. Роха) у гэтыя дні будуць гучаць творы І. С. Баха і іншых кампазітараў ў выкананні навучэнцаў Дзіцячых курсаў пры Архікатэдральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі і студэнтаў класа аргана БДАМ У. Неўдаха.

29 снежня ўдзельнікі праекту "Легенды Вялікага Княства" прадставяць слухачам канцэртную праграму, прысвечаную старадаўняй беларускай музыцы.

Ансамбль старадаўняй музыкі пад кіраўніцтвам С. Шыдлоўскай (г. Віцебск), ансамбль "Fona Bona" (кіраўнік К. Насаеў) і арганіст В. Кісцень выканаюць творы з Нясвіжскага канцыяналу (1564 г.), са Слонімскага сшытку (XVIII ст.), творы Вацлава з Шамотул, Цыпрыяна Базыліка, Мікалая Гамулкі, канты і псальмы XVI-XVIII ст.ст.



Гэты канцэрт для ўдзельнікаў праекту – своеасаблівая справаздача перад шматлікімі слухачамі. Але прыхільнікам беларускай старажытнай музычнай спадчыны будзе цікава даведацца, што новага чакае іх у наступным годзе. Як падкрэсліла кіраўнік праекту спадарыня Арына Вячорка, наступны год для тых, хто выконвае беларускую старадаўнюю музыку, будзе яшчэ больш напружаны і выніковы.

Слухачоў упершыню чакаюць знаёмства з дыскам, на якім будзе поўная версія знакамітага "Полацкага сшытка", з працягам фанаграфічнай серыі "Легенды Вялікага Княства", на якіх будуць самыя яркія мелодыі ў выкананні самых лепшых беларускіх выканаўцаў.

Адна з задум будучага году – правядзенне ў красавіку конкурса маладых выканаўцаў старажытнай музыкі, а таксама, — традыцыйнага "Лошыцкага фэсту". Але гэта толькі планы...

Мінулы ж год ўдзельнікі праекту "Легенды Вялікага Княства" завершаць "Сярэдневечнымі калядамі", у якіх возьмуць удзел таленавітыя маладыя гурты старадаўняй і фальклорнай музыкі - "GUDA", "Desan", "Bassdance", "ДжамБі-Бум", "Вайдэлот", "Тэстамант", "Гістарыён", "Ліцвінскі хмель", "Рокаш", "Келіх Кола", "Яварына"...



Усе музычныя імпрэзы, што адбудуцца пад час правядзення фэсту "Калядныя вечары на Залатой Горцы" ўпершыню будуць трансляваць па каналах Беларускага Радыё ("Культура"), а таксама ў FM-эфіры. Але, ніякая радыётрансляцыя не зможа замяніць чароўнага "жывога" гучання твораў, якія ўжо шмат стагоддзяў радуюць слухачоў сваім хараством і грэюць душы людзей на Каляды.

**Арганізатары фэсту "Калядныя вечары на Залатой Горцы" зычаць вясёлых святаў і запрашаюць наведаць іх музычныя імпрэзы.**

*Анатоль Мяльгуй.*

**На фота аўтара:**

1. Няма лепшага на Каляды, як патанчыць пад старажытную музыку. На канцэртах праекту "Легенды Вялікага Княства".

2. Кіраўнік праекту "Легенды Вялікага Княства" Арына Вячорка сярод удзельнікаў клуба "Рыцары Вялікага Княства" і музыкаў гурта "Ліцвіны".

# *Спіртавыя напоі і іх найменні ў гаворках Гарадзеншчыны*

У старажытным Рыме казалі: "У віне праўда, у вадзе здароўе". І сапраўды, з антычных часоў да сённяшніх дзён спіртовыя напоі — частка нашага жыцця. Амаль ніводнае свята не абыходзіцца без іх. Выносіць прысуд — добра гэта ці не — не ёсць нашай мэтай, таму скажам так: "Добра тое, што ў меру".

Пачнем з вытокаў. У старажытным Рыме самым папулярным спіртовым напоем было віно, культ якога праходзіць праз творчасць многіх антычных паэтаў. Чытаем у Амара Хаяма:

*З бэзавай хмары на долы раўнін*
*Цэлы дзень асыпаецца белы язмін.*
*Наліваю падобны да лілеі келіх*
*Чыстым полымем ружы —*
*лепшым з він.*

Францыя здаўна лічыцца радзімай шампанскага. Германія і Чэхія — піва, Расія - гарэлкі. А мы, беларусы, можам назваць сваім нацыянальным напоем медавуху.

У нашым артыкуле распавядаецаа пра спіртавыя напоі і іх найменні ў гаворках Гарадзеншчыны як адметнага этнакультурнага рэгіёну Беларусі. Сустракаем тут наступныя назовы, якія складаюць сінанімічныя шэрагі з значэннямі:

а) ***'гарэлка'*** — гарэлка, арэлка, водка, гара, галэга, напой;

б) ***'самагон'*** — самагонка, алімбік, бараро, більвал, згара, лёрка, пяршак, чумаргес, чымíргіс;

в) ***'брага'*** - барда, шляма;

г) ***'настойка'*** - гарабінаўка, хмялюн;

д) ***'віно'*** - віно, балбанэс, трунак;

е) ***'назвы іншых спіртовых напояў'*** - жытнёўка, піва.

Найменне ***гарэлка*** агульнапашыранае, гэта спадчына ўсходнеславянскага перыяду. Утворана суфіксавым спосабам ад ***гарэць***: **гарэ-лк-а**. ***Арэлка*** - рэгіянальны варыянт ад ***"гарэлка"***, без пачатковага *г*; параўн: *арэх — гарэх, ура — гура, ануча — ганучa.*

Слова ***водка*** таксама рэгіянальнае. Яго ўжыванне лінгвісты тлумачаць уплывам у мінулым польскай, а пасля расейскай моваў (параўн. польск. ***wodka***, рас. ***водка***).

Слова ***гара*** - рэгіянальнае утварэнне ад ***гарэць*** **(гар-а)**, як і слова ***гарэлка***.

Назва ***галэга*** мае непразрыстую будову.

Найменне ***напой*** -агульнапашыранае. Утварылася ў выніку пашырэння, раздраблення першаснага значэння гэтай лексемы *'пітво ўвогуле'* і пераносу на новую назву значэння *'спіртовы напой, гарэлка'.*

Слова ***самагонка*** агульнапашыранае. Утварылася складанасуфіксавым спосабам з славазлучэння *сам ганю*: **сама-гон-к-а**. Гэта назва бытуе ва ўсіх усходнеславянскіх мовах.

Слова ***алімбік*** рэгіянальнае, пазычанне з польскай мовы.

Назва ***бараро*** таксама рэгіянальная, мае непразрыстую будову.

Найменне ***більбар (бімбар)*** рэгіянальнае, пазычанае з польскай мовы.

Слова ***згара*** - рэгіянальнае ўтварэнне (нульсуфіксавым спосабам) ад ***згарэць***: **згар-а**.

Лексема ***лёрка*** рэгіянальная, мае непразрыстую будову.

Назва ***пяршак*** 'самагонка вышэйшага гатунку'. Утворана суфіксавым спосабам ад *першы* **(пярш-ак)**.

Найменне ***чумаргес (чымíргес)*** 'дрэнны самагон' — рэгіянальнае ўтварэнне з пазычаным з балтыйскіх моваў суфіксм *—гес* ад назвы расліны *чэмер*, што мае дрэнны пах.

Слова ***барда*** рэгіянальнае. Пазычанне з польскай мовы.

Назва ***хмялюн*** 'мядовая настойка' - рэгіянальнае. Утварэнне ад ***хмялець*** **(хмял-юн)**.

Найменне ***гарабінаўка*** 'рабінавая настойка' — рэгіянальнае, утворана шляхам сціскання славазлучэння *гарабінавая пастойка* **(гарабінаў-к-а)**.

Слова ***віно*** - агульнапашыранае, пазычанне агульнаславянскага перыяду з лацінскай мовы.

Лексема ***балбанэс*** 'белае віно' рэгіянальная, мае нерпазрыстую будову.

Назва ***трунак*** рэгіянальная, пазычанне з польскай мовы.

Найменне ***жытнёўка*** 'пітво, прыгатаванае на аснове жытняй мукі' рэгіянальнае, утворана суфіксавым спосабам ад *жытнёвы* **(жытнёў-к-а)**.

Лексема ***піва*** агульнапашыраная, спадчына агульнаславянскага перыяду (утварылася суфіксавым спосабам ад *піць*: **пі-в-а**.

Як бачым, гаворкі Гарадзеншчыны маюць досыць разгалінаваную мікрасістэму найменняў спіртовых напояў. Гэта пераважна ўласнабеларускія назвы, утвораныя суфіксавым спосабам (пазычанні нешматлікія). І гэта з той прычыны, што беларусы здаўна мелі багата спіртовых напояў, кожны з якіх атрымаў дасціпную і трапную назву. Таму і патрэба ў пазычаннях не была надзённай і закранала новыя, невядомыя нашаму народу спіртовыя напоі.

Шаноўнае спадарства! Калі ў вас узнікла нясцерпнае жаданне выпіць келіх віна, ведайце: медыкі лічаць гэтую справу карыснай, хоць і абмяжоўваюць колькасць келіхаў. Ды і рымскія мысляры, знайшоўшы ў віне праўду, вырашылі, што здароўе ўсё ж у вадзе.

*Анастасія Сняжыцкая, студэнтка 5 курса філалагічнага факультэта Гарадзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.*





# Наш абавязак - выратаваць нацыянальную кнігу!

У 2005 годзе Аддзел рэдкай кнігі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў адзначае" свой 10-гадовы юбілей. Бадай, кожны сённяшні студэнт нашага універсітэта ведае, што Аддзел з'яўляецца даволі значнай установай у навуковым жыцці г. Менска. А як ён узнік, якую працу праводзіць? Давайце паглядзім разам.

Гісторыя Аддзела рэдкай кнігі Беларускага Дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў бярэ пачатак у 1993 г., калі ён быў створаны па рашэнні Вучонай Рады універсітэта. У 1994 г. аддзелу было прадстаўлена памяшканне і зацверджана палажэнне аб аддзеле, якое замацоўвала статус яго як структурнага падраздзялення бібліятэкі, у складзе якога тры супрацоўнікі і пераплётчык. Акрамя асноўнай задачы Аддзела па фармаванні фонда, забяспячэнні яго захаванасці, навуковай апрацоўкі і каталагізацыі былі пастаўлены задачы навукова-бібліяграфічнай, культурна-асветніцкай дзейнасці і інш.

4 кастрычніка 1995 г. была праведзена прэзентацыя Аддзела, у якой бралі ўдзел Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны, дырэктары і супрацоунікі Аддзелаў рэдкіх кніг бібліятэк Менска, выкладчыкі і студэнты БДУКІМ, а таксама калега з Нью-Ёрскай Публічнай бібліятэкі (з ёй зараз БДУКІМ вядзе цеснае супрацоўніцтва).

Фонд АРК налічвае каля 7000 адзінак захавання. Папаўненне фонда вядзецца ў асноўным за кошт падараванняў, даволі рэдка - праз букіністычную кнігу. Супрацоўнікі АРК лічаць значным набыццё калекцыі кніг з асабістых бібліятэк вядомых беларускіх вучоных (на жаль яны ужо пайшлі з жыцця), прафесараў БДУКІМ Р.І.Барыша і М. М. Грынчыка.

Падрыхтаваны да выдання каталог калекцыі М.М.Грынчыка, у які увайшлі як рэдкія, дарэвалюцыйныя выданні, так і кнігі з аўтографамі вядомых дзеячоў культуры і мастацтва Беларусі, беларускіх і расійскіх пісьменнікаў і паэтаў, вучоных.

Аддзел займаецца папулярызацыяй сваіх калекцый сярод беларускай грамадскасці. Менавіта гісторыі калекцыі і асобных кніжных падараванняў прысвечаны публікацыі Л.І.Доўнар у перыядычным друку. У 2002г. удава М.М.Грынчыка передала Аддзелу 1500 выданняў з асабістай бібліятэкі прафесара. Тады ж Аддзел рэдкай кнігі сумесна з кафедрай беларускай філалогіі БДУКІМ арганізавалі навуковыя чытанні «Грынчыкавымі сцежкамі».

У кола інтарэсаў супрацоўнікаў Аддзела уваходзіць таксама і клопат пра буйныя кніжныя зборы вядомых дзеячоў Беларусі мінулых стагоддзяў. Супрацоўнікамі Аддзела ў 1999г. распрацаваны і рэалізуецца праект па рэканструкцыі бібліятэкі Аляксандра Ельскага ў выглядзе электроннага ілюстраванага каталога. Праца прадугледжвае падтрымку пасольства Польшчы і Польскага інстытута ў Менску.

АРК і кафедрай гісторыі Беларусі і музеязнаўства пры актыўным удзеле студэнтаў было аднаўлена пахаванне сям'і роду Ельскіх у Дудзічах (Кобань).

Адным з ініцыятараў гэтай акцыі з'яўляўся Трусаў А.А. Неўзабаве з'явілася ідэя правесці канферэнцыю, прысвечаную 165-годдзю Аляксандра Ельскага. Былі знойдзены нашчадкі Ельскіх і запрошаны на форум. 7 кастрычніка 1999 г. была праведзена міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Універсітэты Ельскіх». Гэта падзея шырока асвятлялася ў перыядычным друку, на радыё і тэлебачанні.

За 10 год Аддзелам рэдкай кнігі падрыхтавана 15 бібліяграфічных дапаможнікаў, з іх 10 персанальных і 2 каталогі. АРК прыняў удзел у праекце «Бібліяграфія Усходняй Еўропы», ініцыяваным Інстытутам Усходняй Еўропы Варшаўскага універсітэта. У 2002 г. быў выдадзены паказальнік «Беларуская Бібліяграфія», дзе адлюстраваны публікацыі па гуманістыцы, надрукаваныя ў Беларусі у 1992-1994гг. У бліжэйшай перспектыве АРК плануе правесці 7-8 лютага 2006 года міжнародную канферэнцыю на тэму «Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры», прысвечаную юбілею Аддзела. Асноўная мэта канферэнцыі - садзейнічаць дасследванню традыцый і навацый беларускага кнігазнаўства, стварэнню навукова-інфармацыйнай прасторы і адукацыйнага асяроддзя, спрыяючых развіццю беларускай навукі пра кнігу.

Што датычыць культурна-асветніцкай дзейнасці АРК, то за час існавання Ад-дзелам было праведзена больш за 30 прэзентацый, вернісажаў, вечарын, круглых сталоў, літаратурна-музычных гасцёўняў; больш за 100 выстаў, калекцый і каля 200 экскурсій не толькі для студэнтаў, але і замежных дэлегацый, гасцей універсітэта і бібліятэкі. Пастаянна праводзяцца вучэбныя заняткі са студэнтамі па гісторыі кнігі. Для прапаганды фондаў АРК актыўна выкарыстоўваюцца СМІ.

Першай значнай падзеяй у навукова-даследчай дзейнасці АРК было правядзенне ў кастрычніку 1996 г. навукова-практычнай канферэнцыі «Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць на Беларусі: Гісторыя і сучаснасць», матэрыялы якой былі надрукаваны пры дапамозе фонда Сораса. У маі 1997 г. праводзіліся Кірыла-Мяфодзіеўскія чытанні, адна з секцый якіх - гісторыка-кнігазнаўчая, а з 1998 г. штогадовыя чытанні праводзяцца сумесна з Інстытутам тэалогіі пры БДУ.

Супрацоўнікі Аддзела - Самайлюк Т.А. (заг. аддзела), Доўнар Л.І. (кандыдат педагагічных навук, гал. бібліятэкар), Дзем'яновіч Т.А. (гал. бібліятэкар), Лявончыкава Д.Г. (гал. бібліятэкар) - акрамя арганізацыі канферэнцый, удзельнічаюць практычна ва ўсіх канферэнцыях, звязаных з кнігазнаўчай тэматыкай.

Л.І. Доўнар распрацоўвае тэму гісторыі кнігавыдавецтва ў Менску 19-пач. 20 ст (каля 30 публікацый па тэме). У 2005 г. яна абараніла дысертацыю. Т.А. Самайлюк распрацоўвае тэарэтыка-кнігазнаўчую канцэпцыю рэлігійнай кнігі як тыпалагічнай катэгорыі. Яна выступае на кнігазнаўчых чытаннях і інш. канферэнцыях, падрыхтавала да выдання манаграфію «Рэлігійная кніга на Беларусі у XVIII ст.». (Па тэме дысертацыі, падрыхтаванай да абароны). Такім чынам, АРК БДУКІМ усе 10 год свайго існавання праводзіць навукова-бібліяграфічную, культурна-асветніцкую, навукова-даследчую дзейнасць, займаецца праблемамі кніжнай справы ў межах Беларусі і у міжнароднай прасторы, папулярызуе рэдкія і каштоўныя выданні, дапамагае ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў у галіне бібліятэчнай справы. Застаецца пажадаць усім супрацоўнікам Аддзела далейшай плённай працы і творчых поспехаў.

*Студэнткі 3-га курса ФІДК БДУКІМ Наталля Федасюк і Дзіяна Шантар.*

**На здымку:** у Аддзеле рэдкай кнігі.

## Прэзэнтацыя чарговай кнігі гісторыка

### Нататкі пра сустрэчу з выдатным гісторыкам нашай краіны Анатолем Пятровічам Грыцкевічам

Зімовым вячоркам 8 снежня ў 18.00 у сядзібе "Таварыства беларускай мовы" адбылася цікавая сустрэча з прафесарам, доктарам гістарычных навук, загадчыкам кафедры гісторыі і музеязнаўства Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў А.П. Грыцкевічам.

Сустрэча з А.П. Грыцкевічам, была прысвечана юбілею Слуцкага збройнага чыну, які пачаўся 27 лістапада 1920 г. У самым пачатку сустрэчы А.П. Грыцкевіч прадставіў усім удзельнікам сваю новую кніжку "Слуцкае паўстанне 1920 года".

Патрэбна адзначыць, што вывучэннем гэтай гістарычнай падзеі ён займаецца вельмі даўно. Ён вывучаў архіўныя крыніцы ў Лонданскай бібліятэцы, сустракаўся са сведкамі гэтых падзей, выдаў некалькі артыкулаў па гэтай тэме ў газеце "Наша слова". Было адзначана, што ў савецкія часы пра гэту падзею замоўчвалі. У савецкай гістарыяграфіі гэта падзея была белай плямай. Але зараз, як адзначыў Анатоль Пятровіч, адносіны да гэтай падзеі змяняюцца.

Узгадванне пра яе ёсць і ў Беларускай Энцыклапедыі, з'яўляюцца кнігі па гэтай тэме. Таксама з 27 лістапада 1992 г. адзначаецца юбілей гэтай падзеі сярод свядомых беларусаў. Яшчэ 27 лістапада лічыцца Днём герояў.

Напрыканцы сустрэчы А.П. Грыцкевіч даў параду ўсім удзельнікам сустрэчы, наконт таго, што трэба добра ведаць гісторыю сваёй краіны, азнаёміць шырокае кола людзей з ёй, трэба каб гісторыкі даносілі гісторыю праўдзіва.

А.П. Грыцкевіч адзначыў, што мы павінны адзначаць кожны год гэты юбілей і не саромецца пра гэта гаварыць усім.

Цікава, што на гэтай сустрэчы было расказана і пра самога А.П. Грыцкевіча, пра вывучэнне ім гэтага пытання Валахановічам Анатолем Іосіфавічам, гісторыкам, журналістам, краязнаўцам, які займаецца вывучэннем гісторыі Беларусі, археалогіі, краязнаўства, Айчыннай і грамадзянскімі войнамі і пытаннямі рэлігіі, з пад пяра якога выйшла больш 20 кніг.

Таксама на сустрэчы выступаў і Анатоль Яўхімавіч Белы, загадчык прыватнага музея ў г. Старыя Дарогі. Ён расказаў пра выставу, створаную ў гонар удзельнікаў Слуцкага паўстання, таксама расказаў пра праекты помнікаў, а менавіта аднаго грамадзянскага і магільнага. Выказаў прананову, каб кожны сапраўдны і свядомы беларус ушаноўваў памяць пра Слуцкае паўстанне усталёўваннем памніка на сваёй сядзібе.

Была выказана ўдзячнасць А.П. Грыцкевічу за цікавую сустрэчу.

Я вельмі радая, што апынулася сярод удзельнікаў сустрэчы. Было б вельмі добра каб такіх цікавых сустрэч было больш, у якіх можна атрымаць шмат звестак пра гісторыю сваёй Бацькаўшчыны.

*Бучына Марыя, студэнтка 250 гр. БДУКіМ.*

## Сустрэча з Кастусём Тарасавым

6 снежня ў сядзібе грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" адбылася сустрэча са знакамітым беларускім пісьменнікам Кастусём Тарасавым.

З нагоды выхаду ў бліжэйшых нумарах часопіса "Дзеяслоў" яго аповесці "Скарб апошняга Радзівіла" была вызначана тэма сустрэчы – "Страты нясвіжскай скарбніцы" Кастусь Тарасаў паведаміў слухачам пра гісторыю напісання аповесці. За аснову сюжэту твору былі ўзяты дакументы з нацыянальнага архіву Рэспублікі Беларусь, якія датуюцца 1812 годам.

Менавіта ў гэты час і быў абрабаваны Нясвіжскі замак. Радзівілаўскі скарб, у які ўваходзілі вырабы са срэбра, золата, каштоўныя камяні, узнагароды, вялікая бібліятэка рэдкіх кніг, часткова трапіў у прыватныя калекцыі, а часткова наогул быў страчаны.

Усе гэтыя падзеі знайшлі адлюстраванне ў аповесці "Скарб апошняга Радзівіла", якая раскрывае некаторыя таямніцы тых часоў.

Пасля выступлення Кастуся Тарасава мы чакаем з нецярпеннем чарговых нумароў часопіса "Дзеяслоў" з аповесцю, калі мы зможам самі акунуцца ў атмасферу тых часоў.

*Дубко Ганна,*
*Рэмізевіч Веранiка,*
*студэнткі 250 гр. БДУКіМ*

## Сустрэчы ў ТБМ працягваюцца

**6 студзеня**
**Кастусь Тарасаў:**
**"Страты нясвіжскай скарбніцы"**
**Пачатак а 18-й гадзіне.**
**Уваход вольны.**

Людміла Дзіцэвіч

# Беларуска-ірландскі дзённік

## *(Працяг "Ірландскага дзённіка")*

### 80000 беларускіх рублёў за ўсмешку

Беларускаму чалавеку, які ўпершыню выязджае ў замежныя еўрапейскія краіны, трэба вучыцца ўсміхацца. Мы не ўмеем гэта рабіць, нас гэтаму не вучаць ні ў сем'ях, ні ў школе. А жыццё прывучае нас да думкі, што яно цяжкае і трэба цярпець. Пра цярплівасць беларусаў ужо даўно складаюць розныя показкі, якія ведаюць усе. Але так як гэта будуць чытаць і ірландцы, то мне хочацца нагадаць пра адну з іх. Напрыклад, як вешалі беларуса, украінца і рускага. "Павесілі ўсіх траіх. Прыйшлі праз тры дні праверыць. Рускі пайшоў да Абрама на піва, украінец таксама склеіў ласты, а беларус жывы. Пытаюць у яго, як гэта яму ўдалося. А той кажа: "Спачатку вяроўка муляла, а потым прыцярпеўся". Усмешку беларус на свой твар, вядома, у гэтай сітуацыі не прычапляў.

Не вучаць нас усміхацца і сутуацыя з мыццём свайго цела. Усе ведаюць другую показку пра гэта. "Пытаюць у аднаго беларуса, дзе ён мыецца, бо няма душа ў яго хаце, а лазні ў яго вёсцы. Той кажа, што ў рэчцы. - А зімой? - А колькі той зімы?"

З гэтым мыццём таксама праблемы ўзнікаюць за мяжой. Дзеці з вёсак, напрыклад, прывыклі мыць на ноч толькі ногі, а раніцай калі пару кропель кінуць на твар - і то добра. І ўзнікаюць канфлікты ў ірландскіх сем'ях, што даглядаюць беларускіх дзяцей. Адну дзяўчынку чуць не выслалі ў Беларусь, якая не хацела мыцца пад душам, а вопратку сваю мыла мылам рукамі. Тут ужо не да ўсмешак!



*Усміхаюцца дарослыя: Людміла, Ларэнца і Брайда Хайнз*

Я сама вучылася ўсміхацца ў замежных краінах. Спачатку гэта было цяжка. Стамляліся мускулы на твары, вечарам я не магла ўсміхацца - балеў твар. Але паступова навука ўкаранялася. Калі ж пазней прачытала кнігу акадэміка Мірзакарыма Нарбекава "Опыт дурака, или ключ к прозрению", у якой апісваецца лекаванне чалавека праз усмешку, і мышцавы карсет, то зразумела, якая важная рэч - усмешка. Я нават пачала вучыць гэтаму маіх студэнтаў - будучых настаўнікаў мовы і літаратуры. Бо настаўнік з усмешкай падымае дух сваіх вучняў, навучае іх пазітыўнаму мысленню.

Праўда, не заўсёды ўсмешка выклікае добрыя адносіны з боку прысутных. Многіх беларусаў раздражняе мая заўсёдная ўсмешка, і яны нават гавораць мне пра гэта, не могуць зразумець, што і шчасце, і лёгкае безбеднае жыццё знаходзіцца не ў чыіхсьці руках, а ў нашай галаве. І кожны вольны выбраць вырыз, свайго твару - усміхацца ці пакутаваць.

Калі ірландцы былі ў Беларусі і мы наведвалі розныя школы-інтэрнаты, нас вазіў кіроўца Саша з фонду "Сакавік" на аўтобусе - былым амбулансе (хуткай дапамозе), які падарылі сябры з Ірландыі. Саша, як і ўсе беларусы, мала ўсміхаецца, але аднойчы яго твар быў такі сумны, што ірландцы не вытрымалі і спыталі, чаму. Саша пачаў тлумачыць, што грошай няма, працы няма, жонка пілуе, а ўнукам няма за што купіць падарункі. Тады ірландцы скінуліся, сабралі 80000 беларускіх рублёў і ўручылі Сашу, папрасіўшы яго усміхнуцца. І той заўсміхаўся.

### Што спачатку будаваць: дах для храма ці дах для сіроцкага дома

У адзін з вечароў я запрасіла ў Станькава для сустрэчы з ірландскімі гасцямі старшыню ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" Алега Трусава.



*Шон Крэг (аправа) з Шэмесам Грэханам і Полай Гільфоіл у Станькаўскай школе*

Даведаўшыся, што Алег Трусаў займаецца палітыкай, ірландцы закідалі яго пытаннямі пра сённяшняе жыццё Беларусі, пра яе будучыню. Было бачна, што гэта турбуе ірландцаў.

Гутарка паступова перайшла на гістарычную тэму. Дацэнт Унівесітэта культуры распавёў нам пра старажытную гісторыю Станькава, пра яго слаўных гаспадароў. Ад былых гадоў у пасёлку засталіся некаторыя збудаванні, храм. Гісторык расказаў пра два легендарныя востравы, разлучаныя вадой.

Алег Трусаў пашкадаваў у сваёй гаворцы, што дах пад царквой так і не адра-мантаваны, цячэ і псуе памяшканне. Ён са шкадаваннем адзначыў, што вось грошы на новы дох школы-інтэрната беларусы і ірландцы знайшлі, а храм застаўся без увагі.

Тут і разгарэлася спрэчка. Ірландцы горача даводзілі, што дзеці - гэта галоўнае, што спачатку трэба накрываць дом для дзяцей, а ўжо потым думаць пра храм. Дацэнт універсітэта не згаджаўся, даводзячы, што перашымі з'явіліся храмы - і ў іх наша галоўная будучыня.

Было цікава назіраць, як спрачаюцца абодва бакі, як ірландцы апантана атакоўваюць нашага навукоўцу, як аргументавана ён адбіваецца.

Мне самой было цікава вырашаць, што ж сапраўды трэба будаваць спачатку. У той час, у жніўні 2004 года, я была на баку дацэнта Трусава, лічыла, што храм - гэта душа чалавека, гэта найважнейшае.

Але потым я паехала ў Ірландыю зімой, затым летам, вандравала па Бела-русі - і ўсім задавала гэтае пытанне. Адказы былі вельмі цікавымі. У Ірландыі (а пабывала я ў многіх месцах гэтай цудоўнай краіны) я не знайшла ні аднаго, хто быў бы апанентам сваім землякам. Усе гатовы былі будаваць дах для інтэрната сіротаў спачатку.

У нашай жа краіне погляды раздзяліліся. Маладыя людзі згодныя з ірландцамі, а болып сталыя - на баку Трусава.

Я ж памяняла свой погляд на гэтае пытанне, адказ мой змяніўся. На гэта паўплывала знаходжанне ў замежнай краіне. Там людзі вельмі клапоцяцца пра чалавека і ў той жа час не надакучаюць яму, не прымушаюць яго рабіць чужы выбар, пакідаюць яго ў свабодзе. Нават я, прыехаўшы сюды на працу, адчуваю гэтую свабоду. У мае планы ніхто не ўмешваецца, але са мной заўсёды мабільнік, які дае мне арганізацыя, на ім стаіць маё імя (тая ж увага!), і кожны можа знайсці мяне. Бацькі даюць магчымасць дзецям быць незалежнымі, пагэтаму дзеці хутка пакідаюць бацькоўскі дом і ладзяць сваё ўласнае гняздо. І амаль ніхто не дапамагае сваім дарослым дзецям грашыма. Гэта вельмі добра ўплывае на маладых людзей, бо яны не сядзяць, чакаючы, пакуль пажылыя бацькі дадуць ім грошы, а пачынаюць круціцца самі, турбуючыся пра дах над галавой сваіх дзяцей.

У ранейшыя часы чалавек турбаваўся найбольш пра храм, узводзячы прыгажэнныя сцены, малюючы цудоўныя фрэскі. Але дамы для асноўнай часткі людзей былі беднымі, нізкімі, нязручнымі. Сёння ж у высакаразвітых краінах асноўная частка новых храмаў мае даволі просты дызайн, затое ў якіх камфартабельных дамах жывуць простыя людзі. І як яны вераць! І як вучаць гэтаму сваіх дзяцей! У касцёле ёсць спецыяльны пакой для дзетак з мамамі.

І сёння я гатова з ірландцамі будаваць дах для дома. Я хацела б, каб не было столькі шмат сіроцкіх дамоў, дамоў-інтэрнатаў у Беларусі. Мне прыемна чуць нават навіны, што ў перспектыве многія школы-інтэрнаты зачыняцца і саступяць месца хатнім сем'ям, дзе дзеці-сіроты будуць болып набліжацца да хатняга выхавання і знойдуць новых татаў і мамаў.

### Шон Крэг

Шон - філосаф. Для яго жыццё - гэта такая штука, якую стварае сам. Практычна ён усё ўмее рабіць.

Шон вельмі любіць свой Кілбэгэн, свой Вестміт. У яго ёсць майка Вестміта, а сцяжок ён прымацоўвае да сваёй машыны. У гэтым горадзе жывуць чатыры пакаленні Крэгаў - яго бацька, Шон і маці Элен, ён сам з жонкай, чацвёра ягоных дзяцей і яго ўнук. Шон з гонарам паказвае мне фотаздымак мужчын чатырох пакаленняў. А сам Шон з вялікай сям'і, у якой было 8 дзяцей.

Шон з задавальненнем паказваў мне свой Кілбэгэн: Харбор (Harbour) - дом, канал, па якім у 19 стагоддзі ірдандцы на лодках маглі даехаць да Дубліна. Лодкі былі цяжкімі, нагружанымі, і каб скрануць іх з месца, запрагалі коней. Шон паказваў мне глыбокія барозуы на каменным мосце, якія пакінулі металёвыя пасы. Мост быў пабудаваны ў 1831 годзе Мэнам (Mann). Шон паказаў мне Aguaduct: для збору вады для арашэння палёў, ірландскі катэдж старых часоў з саламянай страхоў (Tatch).

Шон - добры арганізатар. Гэта ён заўсёды арганізоўвае паездкі ірландцаў у Беларусь, у Станькава, якіх ужо 6. Знайсці Станькава яму дапамаглі Шон Трэсі, Марцін і Марыя Міцкевіч.

Шон любіць гумар, і ў яго доме пастаянна гучаць жарцікі. Калі я спытала ў яго дачкі Джэні, ці шчаслівая яна ў сваёй сям'і, то Шон заўважыў, што яна не можа быць нешчаслівай у такога бацькі. Шывон, яго жонка, таксама любіць пажартаваць, калі я спытала, пра што марыў Шон у юнацтве, Шывон упэўнена заявіла, што пра яе.



*Шон Крэг на працы ў бровары з калегамі*



*Усміхаюцца дзеці: Фіона, Паліна, Соша*

# ШЛЯХ: ТВАРЫ, ДУМКІ, ГАЛАСЫ

С. Квіцень

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### 122. АПЕКУНЫ

Люцеў ён, агонь,
У грудзях ад нядаўніх падзей.
Сварылі багоў
Між дагэтуль спакойных людзей.

Нібыта дарвалася
Аж ліхарадка сама.
А не сутыкаліся
Шляхі да цэркваў здаўна

І марыў нават закінуты гай
Аб згодным святле.
Хоць ведаў чужынцаў спагадлівы край,
А былі ўсе свае.

Ды грэху цяжэрнага –
Ў думках заморскага тхла –
Душа прававерная
Побач цярпець не магла.

Зноў збройнае справы
Напянутай стала струна,
Бо лепшай падставы
Запал рабаўніцкі не знаў.

Трымаўся з дзяржаўным стараннем
Ля брам на пасту.
Вучыла гандлярства ў храме
Маліцца Хрысту.

Урэшце ў зграю звяло,
Дало рады пячаць,
Сваіх пад крыло
Пасняшалася д'ябальства ўзяць.

Усюды варон напужалі,
Грымячы, званы.
Набеглі з крыжамі
Заўзятыя апекуны.

Дык ласку святую агулам,
Старонка, прымай.
За гэтакім тлумам
Не чулася Бога амаль.

### 123. ЧУЖЫНЦЫ

Край прачынаўся, шэрым забраным,
Хто мог забыцца,
І за спіною стаялі таксама
Свае чужаніцы.

Проста, усюды гуляла бязглуздзіца
Тая ж, ад ляхаў.
Людзі з палацаў даўно абярнуліся
У ваўкалакаў.

Хоць бы маўчалі пра дрэнныя сны,
Дык ужо і на золку
Вылі ад ганка ўголас яны
На ўсходнюю зорку.

Перадчувалі душой неспакойнай:
Будзе нашэсце.
Цяжка было лёс няўмольны
Такі перанесці.

Зноў абяцала занадта ліхое
Пошасць-аблога.
Апанавала ўчарашніх герояў
Тупая знямога.

Млявай смугі панаваў цьмяны час
І ўчора, і сёння.
Ляхія ціснула нас –
Дык ні тое, ні сёе.

Толькі й застаўся разбэшчаны люд
Замест сілы сталёвай.
Зараз "сарматаў" цягнула ў кут
Да спакойнае змовы.

Дык не літоўскаму ценю
Свяціла прэч вылезці з твані.
Спераду, ззаду – чужыя суцэльна
Былі перад намі.

### 124. СТРАЧАНАЕ ІМЯ

Было што й зараз, акрамя
Апошняй сумнай іх гадзіны,
Калі не стала і імя
Ушчэнт паскубленай радзімы.

Агортваў лёс не толькі дым,
Не ўсё ж жыццё яшчэ нямое.
О, заставалася і ў ім
Пакуль што нешта за душою.

Свяціў гэткія агні
Здаля... Прыемнейшым знаёмцам,
У думках чуўся успамін
Пра быль шляхетную пад сонцам.

Не сходзіла яна з вачэй
Сваёй раскошнай далячынню.
Кагосьці ж спадчына яшчэ
Чакала на старой хаціне.

Балюча чулі, як заве –
Літва, шчымлівейшая мроя,
Аднак гамонку пра яе
Хутчэй мянялі на другое.

Бо вымагаў усё ж багаж
Ад іх карыснага начыння.
А ўяўляўся жа міраж,
Як студня блізкая ў пустыні.

Дзе заставаўся шэры прах –
Якіх там лішніх спадзяванняў?
Уголас жа абраны шлях
Па-чужаземнаму назвалі.

А там – не сцішыцца напасць:
Айчына, хворая матуля...
Ды што старое пачынаць?:
Нарэшце неяк праглынулі.

### 125. СУСТРЭЧА.

Пыхнулі абразы,
Дабраславіла з высі.
Родныя галасы
Сярод чужых – знайшліся.

Вось толькі аж калі...
Сэрцы ўзад не пусцяць.
Доўга ў бакі ішлі –
Ды абы не насустрач.

Моцна ахінуў змрок
Даўняй крыніцы повязь.
Рэха хаця б глыток...
Болей адтуль не ўспомніць.

А засталася гаць
І праз такія далі...
Летапісы, відаць,
Драхлыя не зьбрахалі.

Гучна ў іх мовіў час:
Мелі адзін прыпынак.
Сведак другіх у нас
Процьма між слоў-крывінак.

Чулася ў іх туга
Зрэдку разлучным болем.
Мецiла твар рука
Крыжамятым паролем.

Але й благіх падзей
Не зацiхалі крыгі.
Быў жа і Чарадзей
Разам з крывёй Нямігі.

Морак прыйшоў такі –
Барву круцілі хвалі.
Буры нас, скразнякі
Злосныя, параскідалі.

Трэсла ўсіх нараз
Ліха ў цяжкім гуле.
У навальнічны час
З ростані мы звярнулі.

Не дапамог і храм
Супраць дурной навалы.
Толькі сцяна без брам
Моцная паўстала.

А калі над мяжой
Зводзілі лёсу шалі –
Твараў былых ужо
Побач не пазнавалі.

Гэтак сышла ўся
Згода прэч з рускай долі.
Зналіся мы пасля
Хіба адной бядою.

Плакаў крывёю дол
Доўга абапал правалу.
Ворагаў навакол
Большых зямля не знала.

Зеўрала злом імжа...
Чым там было жывіцца,
Калі сваё ўзяла
З барвы-жуды – граніца?

Пекла адтуль нараз
Страшным паліла балам.
Як бы ў мора нас
З боку таго змывала

Нашага на Русі –
Попел адзін ад крылаў.
Хіба, пустых зусім
Са сваяком змірыла.

Гэтай яшчэ журбы –
Што там, у рускай хаце?...
Доўга ж гудзяць папы
Нешта аб роднай маці...

*На тым мы скончылі друк 3-й часткі паэмы С. Квіценя. Засталася яшчэ 4-я частка пра лёс Беларусі ў складзе Расійскай імперыі. Будзем спадзявацца, што, калі будзем жывы, то дойдзе час і да яе.*

## Светлы чалавек з узнёслай душой

75 гадоў таму на нашу зямлю прыйшоў чалавек з вельмі светлай і ўзнёслай душой, з незвычайным талентам паэта, шсьменніка, драматурга. Пэўна, не было на Беларусі такога куточка, куды б не зазірнуў гэты вечны вандроўнік. Ён вярнуў нам многія імёны нашых продкаў, вярнуў гонар за нашу слаўную мінуўшчыну. І беларускі люд удзячны яму за гэта.

Шматлікія прыхільнікі таленту Караткевіча прыйшлі ў дзень народзінаў паэта, 26 лістапада, да яго нага помніка, што на Усходніх могілках Менска, каб аддаць даніну пашаны Вялікаму Беларусу. Напярэдадні юбілею лёг першы снег, які зацерушыў усе сцежкі-дарожкі Але тыя, што вядуць да каменя Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча, пратаптаныя з самага ранку. Разам з іншымі сюды арганізавана прыйшлі сябры Партызанскай раённай арганізацыі ТБМ горада Менска. На белы снег ляглі белыя і чырвоныя кветкі. Святар Леанід Акаловіч правёў памінальную імшу. Ён прынёс старэнькі нататнік з перапісаным ад рукі вершам з аўтографам Уладзіміра Караткевіча і прачытаў гэты верш. Словы падзякі нашаму вялікаму пісьменніку выказаў Валянцін Тарас. Георгі Ліхтаровіч прачытаў сваю паэму, прысвечаную Уладзіміру Караткевічу і Палессю, якое ён так любіў. Прагучала песня на адзін з вершаў паэта, музыку да якога напісаў малады чалавек, які спяваў разам з усімі. Напрыканцы загучаў гімн "Магутны Божа", які харам спявалі ўсе, хто сабраўся ля юмніка Караткевічу.

*Наталля Клімовіч, сябра ТБМ.*

НІНА ГІЛЕВІЧ

ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК

*Лексіка. Фразеалагізмы. Прыказкі, прымаўкі, прыгаворкі. Параўнанні.*

«Беллітфонд»
2005

## Выдадзена ў 2005-м

**У 2005 годзе намаганнямі Ніла Гілевіча выйшаў з друку першы з трох "Дыялектны слоўнік", укладзены калісьці яго жонкай Нінай Гілевіч.**

Матэрыялы да гэтага Слоўніка Ніна Іванаўна збірала ўсё жыццё. Напачатку, у вёсках свайго дзяцінства і юнацтва, яна ўбірала каларытныя словы і выслоўі ў памяць, не думаючы аб тым, што некалі давядзецца перанесці іх на паперу. Потым, на працягу паўстагоддзя, ужо свядома і мэтанакіравана, рабіла запісы, будучы студэнткай, аспіранткай і выкладчыцай філфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У час праграмнай дыялекталагічнай практыкі, на якую яна шмат разоў выязджала са студэнтамі ў розныя раёны Меншчыны (1960-я — 1970-я гады), Ніна Іванаўна не ўпускала выпадку «пададбраць» і занесці ў сшытак любое, раней не чутае ёю, «жывое», нелітаратурнае слова ці фразему з мясцовай гаворкі. Выкарыстоўвала і магчымасці, якія давала ёй пасада дацэнта кафедры беларускай мовы — прасіла студэнтаў запісаць і прывезці дыялекгную лексіку сваёй мясцовасці, іншы раз асобным з іх даводзіла гэта як курсавое заданне ці як дыпломную работу. Увогуле ж старалася запісаць дыялектнае слова ці ўстойлівае словазлучэнне паўсюль, дзе пашанцуе пачуць — у дарозе (у аўтобусе або ў электрычцы), у гасцях у вясковых сяброў і родзічаў, у час летняга адпачынку на Нарачы, у размовах з бабулькамі на рынку... Запісаў назбіралася багата, але ў гэты томік адабрана толькі тое, чаго няма ў іншых дыялектных слоўніках, або — словы, хоць і вядомыя, ды з новым сэнсавым значэннем.

*Наш кар.*

# ...Але кліча і кліча Айчыны абсяг

***Хай на нас нахлістваліся хвалі***
***Разнамоўныя з усіх бакоў –***
***Годнасць мы і гонар захавалі***
***Ў завірусе ўзбуджаных вякоў.***
***Мовы беларускае святыню***
***Я ў скарбонцы сэрца берагу.***
***Хіба лёс яе, як лёс латыні?***
***Пагадзіцца з гэтым не магу!***



15 снежня 2005 года ў Баранавіцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Валянціна Таўлая адбылася творчая вечарына, прысвечаная 70-годдзю нашага паэта Алеся Корнева. Адначасова прэзентаваўся чарговы зборнік вершаў **"Алесь Корнеў на пэндзліку Марка Шагала"**.

Адкрыў імпрэзу музыкант Валер Шыла, які на саксафоне зайграў цудоўную мелодыю Фрэнка Сінатры "Мой шлях". Вядоўцы імпрэзы Наталля Урублеўская і Валянціна Лапата адзначылі, што першыя публікацыі вершаў Алеся Корнева ў кнігах адбыліся ў калектыўных зборніках – літаратурных альманахах – грамадскай арганізацыі "Творчае згуртаванне "Святліца". Менавіта дзякуючы намаганням "Святліцы" і пабачыў свет у 2001 годзе першы зборнік вершаў Алеся Корнева "Услед за ластаўкай".

***За ластаўкай – у вышыню!***
***Бліжэй к адвечнаму агню!***
***Туды дзе хмаркі талакой,***
***Дзе рух няспынны і спакой.***

Як бы за ластаўкай паэт і сам паляцеў у творчую вышыню, адорваючы нас сваімі цудоўнымі вершамі. У 2002 годзе мы ўжо чыталі зб. вершаў "Грае раніца зару", а праз год – "Нягаслыя яскі".

Паставіўшы перад сабою мэту вывучыць спадчыну свайго народа, Алесь Корнеў (па прафесіі ён медычны работнік) стварыў дзве кнігі, якія папулярызуюць гісторыю краіны і зрабілі баранавіцкаму паэту вялікі гонар і пашану. Адна з іх – "Праз міфы і казкі", дзе ён распавёў аб язычніцкіх багах, міфах, вера аб якіх жыве ў народзе. Другая – "Крыжы зямелькі нашае" – аб славутых асобах Беларусі і баранавіцкай зямлі.

Выступоўцы вечарыны адзначалі, што ў 16 ст. баранавіцкая зямля нарадзіла знанага паэта Андрэя Рымшу, які стаў стваральнікам айчыннай панегірычнай паэзіі. Рымша праславіў сваё імя яшчэ і тым, што напісаў слынную "Храналогію", дзе ў вершавальнай форме паказаў усю біблейскую гісторыю, якую з захапленнем чыталі тагачасныя людзі. Напэўна рымшаўскі паэтычны дух і талент да прыгожага і высокага слова праз пяць стагоддзяў увасобіўся ў цяперашнім баранавіцкім паэце Алесе Корневе, якога лічым адным з таленавітых і стваральных паэтаў найноўшай гісторыі Беларусі. Наш Корнеў доўга і зацята карпеў над гістарычнымі кнігамі, энцыклапедыямі, слоўнікамі і ў вершавальнай форме пераказаў усю гісторыю Беларусі. Асабліва ён услаўляў тыя імёны, чый лёс звязаны з баранавіцкім краем: Адама Міцкевіча, Ігната Дамейку, Кастуся Каліноўскага, Паўлюка Багрыма, Валянціна Таўлая, Сяргея Грыцаўца, Мікалая Дарашэвіча.



Не менш за мінулае, хвалюе Алеся Корнева і сучаснае жыццё. Паэт жыве побач з намі, разам ходзіць па вуліцы, наведвае тыя ж крамы, чуе тыя ж размовы. Ён – сведка часу, сведка падзей... А паколькі жыццё нашае не заўсёды сонечна-бясхмарнае, то і ў творчасці паэта часта гучаць ноткі занепакоенасці. Яго трывожыць лёс краіны і яе грамадзян, выклікае абурэнне абыякавасць людзей, прага да багацця і адсутнасць міласэрнасці, раўнадушша да будучага Радзімы і роднай мовы. Ды і іншыя паркі чалавека, якія можна лічыць бытавымі, атрымліваюць ў яго творах асуджэнне: п'янства, непавага да бацькоў, здрада каханню. А з другога боку яго душа хутка адгукаецца на добрыя ўчынкі, на гераічныя здзяйсненні. І ён іх вельмі ахвотна занатоўвае, каб чытаючы аб гэтым хацелася браць прыклад: са старанных студэнтаў, з аптымістаў дачнікаў, якія працуюць на зямлі, наогул, з нераўнадушных людзей, сярод іх шмат канкрэтных асоб, якіх Алесь Касьянавіч ведае асабіста і якіх робіць героямі сваіх вершаў.

***- Ды ёсць і тыя,***
***што без боязі,***
***святою свечкаю***
***гараць да скону,-***

сцвярджае паэт і прысвячае вершы сябрам па творчасці: кампазітару і выканаўцы песен (сярод якіх шмат корнеўскіх) Галіне Яршэвіч, паэтам Івану Лагвіновічу, Юрасю Мацюшка, Уладзіміру Трацякову, кампутарнаму мастаку і дызайнеру Уладзіміру Гундару... У кожным ён заўважыў непаўторнае, толькі гэтай асобе ўласцівае, і стварыў такім чынам партрэты таленавітых і актыўных у жыцці людзей, пра якіх трэба, безумоўна, гаварыць грамадству.



У сваіх зборніках вершаў "Жаночыя напевы" і "Вішнёвы прасмак" Алесь Корнеў асабліва моцна і прыгожа, натхнённа ўслаўляе жанчын і чалавечае каханне. Жаночая прагажосць выклікае ў яго вір салодкіх пачуццяў, і таму вершаў пра каханне (сур'ёзных, лірычных і гумарыстычных) ў яго проста безліч.

Вядома краязнаўца Міхась Маліноўскі, мясцовыя паэты і паэткі Іван Лагвіновіч, Браніслава Лапкоўская і Раіса Раманчук шчыра віталі юбіляра Алеся Корнева прыгожым паэтычным словам і падарункамі. Паэт Алесь Белы, як аўтар прадмовы, прадставіў новы зборнік вершаў "Алесь Корнеў на пэндзліку Марка Шагала". Ён адзначыў, што калі ранейшыя кніжкі Корнева складаліся з асобных вершаў, то гэты твор хутчэй паэма. Але самае адметнае, бадай, тое, што аўтар, якому і раней было ўласціва час ад часу весяліць чытача, цяпер стала звярнуўся да гумару. Добрае веданне жыцця, як было сказана вышэй, дазваляе аўтару абмаляваць самыя "пікантныя" сітуацыі, напрыклад, пра "каханне" ў "жыгулёнку" брыгадзіра і даяркі.

***Во, машына! Залатая!***
***Заглядзеліся вятры.***
***Толькі хто ж яе гайдае,***
***Што там робіцца ўнутры?***

Зрабіць жыццё трошкі весялейшым, а, значыць, і лягчэйшым – адна з асноўных мэт, якія ставіць перад сабою паэт Алесь Корнеў. Здаецца, яму гэта ўдаецца. На заканчэнні хацелася сказаць, што Алесь Корнеў жыве не ў нейкай іншай прасторы, не ў другім вымярэнні. Ён – з намі, а мы яго творы чытаем і любім. У адным з сваіх вершаў ён піша, што увесь час нада мною знаходзіцца прама, таму і жыву я пад зоркаю Адама. І некалі мы будзем шукаць у баранавіцкім небе зорку, каб жыць пад зоркай Алеся.

***Наталля Урублеўская,***
***загадчыца аддзела***
***бібліятэчнага***
***маркетынгу ЦГБ імя***
***В. Таўлая***
***Віктар Сырыца,***
***старшыня Баранавіцкай***
***Рады***
***ТБМ імя Ф. Скарыны.***

***На фота Алены Камаровай:*** 1. Паэт прэзентуе свой новы верш; ***2.*** Кветкі ад прыхільнікаў творчасці Алеся корнева; 3. Паэт і муза (падарунак ад сяброў Баранавіцкай Рады ТБМ).

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Валер Задаля, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 12. 2005 г. у 11.30. Замова № 2138.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1270 руб., 3 мес.- 3810 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.